
Падляшскія ўборы→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Марына Дашук→9

http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 16 (2971) Год LVIII

Беласток, 21 красавіка 2013 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Калі мяне пачыналі ў сакавіку 1958 года, „Ніва" адзначала свае другія нарадзіны. У Варшаве адбыўся тады сход Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурага таварыства. Там шэфам стаў надалей Юрка Туронак. „Ніва" пісала ў тым нумары і пра глабальныя справы „двух міравых лагераў — соцыялістычнага і капіталістычнага", і пра свае тутэйшыя. Мацей Канапацкі з Вільні прыслаў карэспандэнцыю пра Міцкевічаўскія месцы, а пасля кранаў нацыянальнае пытанне ў творчасці Багушэвіча. Стары ТБШавец Кастусь Сідаровіч успамінаў пра беларускую культурную дзейнасць часоў санацыі ў Беластоку. Васіль Барщэўскі далей надрукаваў сваё апавяданне „Варвары", Віктар Швед з настаўніцкай нівы разважаў пра „Справу беларускіх падручнікаў" ды „папулярызаваў гераічныя змаганні нашага народа". Дзядзька Лявонь (Станіслаў Вагурка) на старонцы гумару і сатыры рассмешваў „Камінарам". Францішак Берніковіч разважаў пра „Уздым нацыянальнай свядомасці беларусаў у XIX стагоддзі"... У дзень калі я нарадзілася дэбютавалі Ян Чыквін і Алесь Свісёк (Аляксандр Батура). Між іншым гэтыя прозвішчы сабраў у чарговых нумарах нашага тыднёвіка Георгій Валкавыцкі, заснавальнік „Нівы" (1956) г., беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" (чэрвень 1958), адзін з першых у БГКТ. Тэмы, прозвішчы і асобы „ніўцаў" — журналістаў, карэспандэнтаў, літаратараў, а перш за ўсё самога Георгія Валкавыцкага стаяць пры ўсім маім жыцці — ад жыццёвага пачатку, ад першых прачытаных самастойна беларускіх слоў (1966), ад майго ніўскага дэбюту — у лютым 1973 года і ў „Белавежы" ў кастрычніку 1973 года. І прыходу ў рэдакцыю ў 1985 годзе — амаль 30 гадоў таму. Сорак гадоў майго свядомага беларускага жыцця, пісанага родным словам. Выхавання гэтымі непахіснымі людзьмі.

Міра ЛУКША

# Глядзі і пішы!



## Георгій Валкавыцкі

*Брат Мікалай рыскай і плямай хоча сказаць аб сабе,*
*аб краявідзе сярод лат лісця і карэнняў пераплеценых з лавай.*
*А цябе не чуе? Сядзім у агародчыку пад «Маршандам»,*
*цікавыя брата Юркі, які больш чым ты мастак*
*з выгляду – ясеней пень, з валасамі вярбовымі,*
*сотні даходзячы – бягун на доўгія дыстанцыі.*
*І ты ў залатых вяргінях, абсыпаны сонцам Белавежжа,*
*здзіўляешся нам. «А што ж ён вам даў? Белую вязь? А якую вязь*
*ён знайшоў? Ваша пакаленне сёння на такіх плюе!*
*Вашы дзеці вашых бацькоў, і вы ўжо бацькі...»*
*І што гэта за слова? Бацька «Белавежы»? Той солтысаў Жоржык?*
*Ад Камянецкага тракту хапае ў ноздры вецер Георгій,*
*што нясе навіны і чуткі забытыя. А нічога не кажа,*
*зберагаючы кожнае слова, прыслухоўваючыся да слоў іншых.*
*А каменьчыкі ў роце грэюцца і іграюць.*

***«Вершы тутэйшыя», 2003***
***Міра ЛУКША***

Адчуваю гонар і шчасце, што прыхінула мяне гэтае — жывое прыгожае беларускае месца, якое прыцягвала і прыцягвае ўсіх тых, каго кранае за жывое роднае і нашае, і якое мы ажыўляем ды якому не дамо памерці. Найперш убачыла гэтых асоб у сваёй семяноўскай школе. Прыехалі „мой першы жывы паэт" Віктар Швед, Яніна Чарнякевіч і, здаецца, Васіль Дзун. Расказвалі між іншым пра „Ніву", „Зорку". Мне ад сустрэчы засталіся кнігі ды адліў з радка з лінатыпа: „Школа ў Семяноўцы". Пасля ўжо я даведалася як робіцца газета — пасябравала з „чорнарабочымі" друкарамі, з працавітай і прыгожай цёцяй Верай Паповай, з вялізнымі машынамі, каб навучыцца, умець, працаваць. І засталося ў памяці яшчэ тады імя „галоўнага": Георгій. Як Георгія перамажцы, апекуна нашай царквы, што стаіць леваруч нашай школы, які забіў страшнага цмока пікай. Таму і здаўся мне ён нейкім такім недасяжным: той, хто нейкай нябачнай рукой трымае вельмі складаны выхад „Нівы", тыднёвіка ўсіх беларусаў. Георгій Валкавыцкі быў галоўным рэдактарам, пра што і іншыя чытачы ведалі нават не з рэдакцыйных выхадных даных, бо і тут пісаў: „Рэдагуе калегія" або „Рэдагуе калектыў", значыць — усе, хто робіць „Ніву". Бо так і было — мелі сваю старонку карэспандэнты, нештатныя працаўнікі нешматлюднай рэдакцыі — яны і даходзілі куды трэба, і пісалі, і ведалі, што іхняе напісанае і надрукаванае звархунe часам незварушныя справы...

Ці галоўны — выкшталцоны літаратар (пасміхаўся, паказваючы дыплом элітнага Літаратурнага інстытута імя Максіма Горкага ў Маскве, што ён па прафесіі адно „літаратурны работнік" — працуючы ад рання да ночы над тэкстамі іншых і самой эдытарскай тэхнікай — сціпла хаваўся пад псеўданімамі — „Юва" (Юры Валкавыцкі), „Юрка Зубрыцкі" і іншымі? Не казытала яго „зорная хвароба" на славутасць, смяшылі яго розныя меншыя і большыя, што пхаліся на афішу ці экран. „Я жыву так доўга, што ўсё памятаю!" — смяяўся, назіраючы за неафіцкай мітрэнгай розных падпанкаў каб зацерці сляды іхняй дзейнасці з мінулых гадоў. Вёў рэдакцыю 32 гады, у складаны час, незалежна, сумленна. З радасцю ад поспехаў іншых. Без сораму. З гонарам за сваіх калег, нават калі катораму пакаўзнулася нага. Не шкадуючы нічога. Не, адНаго пашкадаваў. І прызнаўся праз пару дзесяткаў гадоў: „Я тады памыліўся! Не дадумаўся, які талент працуе за маёй сцяной!". Гэта пра Ніну Бручко-Анджэюк, якая працавала сакратаркай у рэдакцыі, і якая сур'ёзна задэбютавала на старонках свайго тыднёвіка... праз 30 гадоў ад таго, як з яго адышла. „Ну, але ты, Мірка, выправіла маю памылку і Ніну знайшла!" — прызнаўся мне, а я ад гонару і радасці заквітнела як мак...

Памятаецца мая першая сустрэча ў Беластоку з „белавежцамі" — запрасіў мяне Георгій Валкавыцкі ў лістападзе 1973 года на мой першы семінар літаб'яднання, які адбываўся ў Галоўным праўленні БГКТ. Прыехала я з мамай — больш-менш равесніцай (на мой погляд „старых" — трыццаціпаругадовых!) — Сакрата Яновіча, Янкі Чыквіна, Юркі Генюша... Георгію Валкавыцкаму, самаму высокаму там негаваркому дзядзьку было 50 гадоў. Віктару Шведу і Міхасю Хмялеўскаму — па 48. Калі ўяўляю сабе, што я цяпер больш-менш у іх узросце, і што ўсё тое, што я за свой час зрабіла — гэта перш за ўсё дзякуючы іхняй працавітай і таленавітай беларускай маладосці, і як мала гэтага майго... Але ж ужо наша, іхніх дзяцей, пакаленне, правяло нашу справу не праз лягчэйшыя парогі, і ўжо іншыя прыходзяць, прыйшлі — іхнія ўнукі.

Прыгадваю сабе, як у купальскую ноч я — „залядская Мірка", з Георгіем Валкавыцкім і Сяргеем Тарасевічам стаім, трымаючыся за рукі пад векавым моцным дубам у Белавежжы і зазіраем на той бок часу. Як той час плыве — няма ўчора, сёння і заўтра... Ёсць той момант назаўджы... Або яшчэ і з Пятром Байко едзем у белавежскі стоўнхендж. „Дзівіса і пішы!" — кажа мне па-пушчанску Рэдактар. Дзіўлюся і слухаю.

Пераглядаем старыя падшыўкі „Нівы". Бачым іх маладымі — перш за ўсё тых, каго так раптам пачаў нам забіраць час. Хто разам з Георгіем-збіральнікам талентаў засейваў нашу ніву. Валодзя Гайдук, Алена Анішэўская, Сакрат Яновіч, Мікалай Лук'янюк — з кагорты ніўскіх карэспандэнтаў і народных паэтаў. Патойбаковай ніве таксама трэба дасведчаных аратых і сейбітаў...

І хочацца мне сказаць за маім настаўнікам: „Гэтае імкненне — кожны факт пацвердзіць — расце ў маёй літаратурнай практыцы з поступам гадоў". Каб з сумленнем быць у ладах, і з гонарам застацца, і каб праўда была. І каб не шкадаваць адведзенага нам часу. І каб не прапала слова.

З вялікім смуткам развітваемся
**З ГЕОРГІЕМ ВАЛКАВЫЦКІМ**
— светлым чалавекам, пісьменнікам, заснавальнікам беларускага літаратурнага аб'яднання ў Польшчы і яго першым старшынёй, вартавым нашых нацыянальна-культурных каштоўнасцей.

**Управа БЛА „Белавежа"**

* * *

Прыміце шчырыя словы спачування па поваду смерці шматгадовага галоўнага рэдактара тыднёвіка „Ніва"
**ГЕОРГІЯ ВАЛКАВЫЦКАГА**
Адышла ў вечнасць вялікая постаць, чалавек, які ствараў асновы для існавання беларускай меншасці ў Польшчы. Вечная яму памяць!

**Тамаш Суліма,**
**старшыня Асацыяцыі беларускіх журналістаў**





# Сцэнар

Здавалася ўжо, што надышоў той кароткі перыяд, калі на беларускую палітычную сцэну прыйшоў зацішак. І будзе той зацішак доўжыцца аж да чарговых выбараў. Ну а галоўныя акцёры, здавалася, або пайшлі адпачываць, або пачалі працаваць над новымі ролямі ў чарговым спектаклі.

Было толькі няясным некалькі дробных рэчаў — ці ўжо падрыхтаваны сцэнар новага серыяла і які гэта будзе жанр — камедыя ці трагедыя, паколькі меладрама або трылер ужо даўно не цікавяць гледачоў. І не толькі беларускіх, але найперш не беларускіх.

Але ж не, зацішак не адбыўся. Паводле закону жанру, гледачоў увесь час трэба трымаць у вострай напрузе. Не даваць ім часу падумаць пра ўжо ўбачанае, не дапускаць, каб яны змаглі абмеркаваць, што ўбачылі раней і нечакана для сябе прыйшлі да высновы, што больш творы гэтага сцэнарыста ў пастаноўцы дадзенага рэжысёра з удзелам канкрэтных акцёраў іх ужо не цікавяць.

Для поспеху ўсялякага, у тым ліку і нават самага бяздарнага твора, перад гледачом увесь час трэба рэкламаваць толькі канкрэтныя прозвішчы і ўжо пазнавальныя твары, каб глядач і ў думках не мог уявіць, што нехта можа выканаць гэтыя ролі лепш. І вось ужо зноў пачаўся новы серыял са старым сцэнарам. Адна частка вядучых апазіцыйных палітыкаў Беларусі шчодра дорыць беларускаму насельніцтву «больш Еўропы», не менш шчодра прапаноўваючы ўладзе годнае і нават ганаровае выйсце з нібыта безвыходнай для тых сітуацыі. Ініцыятыва цікавая ў першую чаргу тым, што агучана нечакана, не ў сувязі з будучымі выбарамі. Другая і іншыя часткі палітычнай эліты ад апазіцыі абураныя выхадкай першых. Але для простага абывацеля яны ўжо здаюцца другаснымі, разгубленымі і адгуляўшымі свае ролі. І не толькі таму, што ініцыятыва не на іхным баку.

Што там тая ініцыятыва. Яна нішто ў параўнанні з тым, што рэжысёр галоўныя ролі прапанаваў іншым. Ініцыятыва ўсяго толькі частка сцэнару, які ў кожным фільме выконвае канкрэтны акцёр, і якога заўсёды можна замяніць другім. І гэта рэжысёр выбірае, хто больш падыходзіць для канкрэтнай ролі.

Таму ў палітычным серыяле зусім не важна хто акцёры. Ды нават не так важна хто рэжысёр. Найбольш загадкавым, таямнічым і цікавым з'яўляецца пытанне хто напісаў сцэнар! І дзе гэты таямнічы аўтар? Чаму не хоча сабе славы і ўсю яе цалкам аддае акцёрам? Можа таму, што добра ведае, што аніякай славы гэты спектакль не прынясе. Хаця ненайлепшую імітацыю прэміі «Оскар» або «Залатая пальмавая галінка» за ненайлепшую імітацыю акцёрскага майстэрства нехта можа і атрымаць.

У недасведчаных людзей нават можа ўзнікнуць пытанне, чаму за кепскую гульню нехта атрымае прэмію. Але ж уся справа менавіта ў тым, што акцёр не вінаваты ў благім фінале. Кепскі фінал ды бляклая гульня, як і тая добрая ініцыятыва, у палітычным спектаклі ёсць усяго толькі часткай сцэнару. І трэба мець добры талент, каб згуляць кепска.

Віна акцёраў не ў тым, што сцэнар кепскі, а ў тым, што многія з іх пагаджаюцца на ўдзел у серыяле, не дачытаўшы сцэнар да канца, а часам і не ўбачыўшы яго. Акцёры, як і ўсе таленавітыя людзі свету, неверагодна ранімыя людзі. Многія з іх хворыя на славу, іншыя сапраўды лічаць свой геній найвялікшым. І шчыра не разумеюць, чаму рэжысёр выбраў на іх думку не проста менш вартага, а поўную бездар, выскачку і недавучку, няздольную нават правільна вымавіць фразу «На стол пададзена». Ну а некаторыя проста дагаджаюць рэжысёру, бо такі іх акцёрскі хлеб.

Толькі вось з гісторыі кінематографа вядомыя факты, калі акцёры адмаўляюцца ад здымкаў з-за кепскага сцэнару. У такіх акцёраў нялёгкі лёс. Яны не займаюцца высмейваннем майстэрства калег, не абражаюць рэжысёраў і сцэнарыстаў, а проста робяць сваю справу. Менавіта такія акцёры з часам становяцца не толькі самымі любімымі героямі фільмаў, але і рэжысёрамі, і сцэнарыстамі, і часам здымаюць свой фільм па сваім сцэнары з сабой у галоўнай ролі. І фільм становіцца агульнанародным. Але каб стаць такім, трэба быць сапраўднай зоркай.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Крывая воська, крывая...

Ці гэта магчыма, каб немагчымае стала магчымым? Было немагчыма, каб убачыць паўночнае ззянне без значных выдаткаў на паездкі ў непасрэднай блізкасці ад Палярнага круга, а беластачане і так, не рухаючыся з хат, маглі палюбавацца ім у волю праз акно. І ўсё гэта бясплатна. На сённяшні дзень навукоўцы ўсяго свету чухаюцца ў галаву, што было гэтага прычынай. Я маю на гэта гатовую канцэпцыю. Лічу, што гэта звязана з пашкоджаннем восі кручэння зямнога шара, занадта зарослага чалавечай плесню. Яе таксічная і ўзрастаючая ў геаметрычнай прагрэсіі вага ўплывае на перагружэнне планетарнай восі і яе ўвагнутасць у форме банана. Затым змяняецца форма Зямлі, выклікаючы свайго роду ссяданне натуральных і тэхнагенных з'яў з аднаго месца нашай планеты ў другое. Такім чынам над Беластокам засвяцілася палярнае ззянне, а неўзабаве будзем мець магчымасць назіраць над Нарвай пустынныя міражы, а, напрыклад, над Гарадок нахлыне вялікагарадскі смог Нью-Йорка. Гэта немагчыма? І хто б паверыў, што некалькі дзён таму, бабёр можа ўкусіць чалавека да смерці? Гэты бабёр быў выяўлены якраз у Беларусі. Таблоідны «Суперэкспрэс» нават назваў яго гіганцкім бабром, хоць праўды ў гэтым столькі ж, колькі бабёр наплакаў. Таму што гэта была звычайная асобіна. Я схіляюся перад чалавечай трагедыяй, але таксама адгрызся б вострa, калі б хто-небудзь зазірнуў мне пад хвост. Іншая справа з дэпутатамі парламента. Гэтым трэба абавязкова зазірнуць пад хвост, таму што большасць з іх мае ўсё ў задніцы, уключна з павагай да выбаршчыкаў. Аказалася, што на аддаленых Галапагаскіх астравах трое польскіх дэпутатаў, замест удзельнічаць у міжнароднай сустрэчы парламентарыяў з усяго свету ў далёкім Эквадоры, аддавалі перавагу ляжаць у цені гіганцкіх галапагаскіх чарапах. Акрамя таго, гэта не адзіны такі выпадак. Польскія дэпутаты ўжо пасля некалькіх месяцаў парламенцкай дзейнасці пачынаюць хварэць вострым скаліёзам маральнага хрыбетніка. Прызнаюся, аднак, што гэта мяне не здзіўляе. Скрыўленне восі Зямлі, вось, уплывае на ўсе аспекты рэчаіснасці. Таксама на людзей.

Калі хто-небудзь хоча мяне абвінаваціць у тым, што я вярзу лухту, то буду з ім згодны. Але па-першае, дазвольце мне адказаць на пытанне: ці магчыма, што будучыня свету залежыць ад банана? Я думаю, што так. Вядома, здавалася быць немагчымым, што феадальная Карэя, званая Паўночнай, ускалыхне цывілізаваным, высокатэхналагізаваным светам. Магутнымі ЗША, саюзнай Еўропай, азіяцкімі тыграмі і Японіяй. А ўскалыхнула. Дастаткова таго, што феадальны суверэн Карэі і ўладальнік 40 мільёнаў заморaных галадам рабоў прыгразіў ядзерный вайной. Малпу, якая гуляе з кансоллю з ядзернай кнопкай, можна адарваць ад яе пры дапамозе банана. І, напэўна, банан мае на думцы карэйскі малакасос. Толькі што мае трохі больш інтэлекту, чым малпа, і ў клетку назад нялёгка яго зачыніць. Напэўна таксама не пакіне небяспечнай цацкі для аднаго млявага банана. Неўзабаве стане патрабаваць больш, і неабавязкова бананы. Аднак праблема не ў тым, чаго яшчэ запатрабуе карэйскі бамбіза, але хто павінен несці расходы на малпіны прыхамаці. Пакуль выдаткоўваюцца на іх галоўным чынам Злучаныя Штаты. Кітай і Расія ўмываюць ад гэтага рукі. І гэта ўсё ж яны прымалі ўдзел у будаўніцтве атамных цацак. Я не буду даваць галаву, але гэта не з'яўляецца немагчымым, што гэта яны адчынілі малпе клетку. Мабыць для таго, каб проста праверыць амерыканцаў, у якой ступені яны поўныя рашучасці захаваць свае пазіцыі ў якасці сусветнага гегемона. Калі схіляцца перад шантажам малпы, пакажуць слабасць. Кітай ужо даўно шукае іх слабыя кропкі, хацеўшы давесці да новага геапалітычнага дзялення. А ў цені кітайскага тыгра хаваецца Расія, неўтаймаваная як гіена ў сваіх імперскіх апетытах. Каб толькі малпа не зайграла ім на носе — быццам бы выпадкова націскаючы на ядзерную кнопку! Гэта таксама не з'яўляецца немагчымым.

Гэтак жа, як здавалася немагчымым, каб лукашэнкаўскі, карумпаваны да мозгу касцей беларускі рэжым выпусціў Тэрэзу Стшэлец — ахвяру чыноўніцкай змовы і чалавечай прагнасці. Абакрадзеная з уласнасці беларускай дзяржавай, нявінна пераследаваная яе ўладамі, на шчасце ўжо ў Польшчы. Тым не менш аб Беларусі злога слова не скажа. І ці гэта магчыма, каб беларусы не саромеліся такой дзяржавы?

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Іншая планета



Калі ў мінулым я быў у Любліне, тамашні гарадскі чыноўнік хваліўся мне, што ўлады горада на працягу нейкага часу прыярытэтна трактуюць культуру, у гэтым плане таксама супрацоўніцтва з краінамі Усходняга партнёрства (УП), асабліва з Украінай і Беларуссю. Меў ён на думцы кангрэс культуры УП, які ўжо другі раз адбудзецца восенню ў рамках «East European Performing Arts Platform», арганізацыю ў карысць развіцця перфарматыўнага мастацтва ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, Усходнюю вось культуры, найбуйнейшы альянс гарадоў усходняй Польшчы дзеля культуры (у тым ліку, тээрэтычна, і Беластока), Еўрапейскую калегію культуры, серыю дакладаў, сустрэч і семінараў, ведзеных віднымі спецыялістамі з усіх краін Еўропы, а таксама ўдзел у праекце «Міжкультурныя гарады». Тую ролю, якую павінна выконваць культура, таксама ва ўсходнім вымярэнні, у Любліне ўжо запісалі ў стратэгію развіцця горада да 2020 года. Тут — у адпаведнасці са стратэгіяй — падкрэсліваецца роля культурнай адкрытасці. Можна там прачытаць: «Культурную адкрытасць можна разглядаць як пэўны тып камунікацыйнай інфраструктуры, якая рэальна скарачае існуючыя на самай справе адлегласці. Звязана яна са стварэннем знешніх адносін». Таксама тут запісана «ўключэнне Любліна ў міжнародныя сеткі супрацоўніцтва і стварэнне Цэнтра ўсходніх кампетэнцый». Пералічаны рэгулярныя сустрэчы з прадстаўнікамі ўсходняй культуры, конкурсы на лепшыя праекты і ініцыятывы УП (у тым ліку культурныя), устанаўленне кантактнага офіса УП, стварэнне міжнароднай грантавай праграмы, кіраванай з Любліна, арганізацыя спецыялістычных усходніх даследаванняў у вышэйшых навучальных установах або ў форме аўтаномнай установы, а таксама мерапрыемстваў рознага характару з міжрэгіянальным значэннем для ўстанаўлення знешніх сувязей і, нарэшце, дапаўненне інфраструктуры (будынкі, зямельныя ўчасткі), неабходнай для гэтых планаў.

Люблінскі чыноўнік таксама з гонарам распавядаў аб рыхтаваных «асновах культурных падзей у Любліне ў 2020 годзе», дакуменце незалежным ад стратэгіі, хоць сугучным яму, у якім прыярытэт будзе аддадзены «стратэгічным праектам, будуючым пазіцыю Любліна на карце Польшчы і Еўропы». Ён таксама згадаў аб «пакце Любліна для культуры», свайго роду закладзе, звязаным з культурай грамадзян, у адпаведнасці з якім мае яна ў палітыцы горада займаць адно з ключавых месц.

Пасля прыбыцця з Любліна я спытаўся ў прэс-сакратаркі прэзідэнта горада Беластока, ці ўлады разглядаюць нейкі спецыяльны дакумент, які вызначаў бы напрамкі развіцця культурнага фонду ў 2020 годзе. Аб палажэнні па супрацоўніцтве ў галіне культуры ў УП не пытаўся, бо ведаю, што яны не існуюць у любой форме. У адказ я пачуў выказванне наступнага зместу: «Горад Беласток не прадугледжвае лакальнага пакта для культуры (...). Стратэгічнай мэтай у галіне культуры, спорту і турызму з'яўляецца «прывабнасць культурных, турыстычных і рэкрэацыйных відаў спорту». З іншага боку, у «Гадавой праграме супрацоўніцтва з няўрадавымі арганізацыямі, вызначаецца аб'ём супрацоўніцтва з няўрадавымі арганізацыямі, уключаючы арганізацыі, якія працуюць у сферы культуры» (не ўключаны ў ім прапановы запісаў аб падтрымцы культуры і адукацыі нацыянальных меншасцей).

Калі я чакаў адказу ад прэс-сакратаркі прэзідэнта Беластока, з Любліна прыйшла да мяне інфармацыя: «У Любліне гасцюе група з шаснаццаці чалавек — гарадскіх прадстаўнікоў культурных устаноў і няўрадавых арганізацый з Львова і Брэста. Падчас трохдзённага семінара будуць выпрацаваны канчатковыя формы інтэграцыйна-мастацкага мерапрыемства на адкрытым паветры «Планета Люблін-Львоў-Брэст». Я падумаў: Беласток з'яўляецца іншай планетай.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Арганізуючы выстаўку ўбораў з калекцыі «Жэмэрвы», мы хочам заахвоціць прынамсі спевакоў, якія выступаюць з неапрацаваным фальклорам, каб таксама пашылі сабе касцюмы на падставе ўзораў са сваіх або суседніх вёсак

# Традыцыйныя ўборы падляшскіх беларусаў

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

Старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік здаўна заклікае спевакоў беларускіх калектываў шыць касцюмы паводле падляшскіх узораў, каб захаваць такім чынам клімат нашага мінулага. У традыцыйнай святочнай вопратцы падляшскіх беларусаў выступае Калектыў студыі фальклору «Жэмэрва», які ўжо 10 гадоў дзейнічае пры Студзіводскім музеі. Выстава традыцыйных убораў падляшскіх беларусаў з калекцыі калектыву «Жэмэрва» стала добрай нагодай для пачатку святкавання юбілею студзіводскага гурту. Адкрыццё экспазіцыі адбылося 7 красавіка ў вясковай хаце ў Студзіводах, што ўваходзіць у састаў музейнага комплексу, у час вялікага царкоўнага свята Благавешчання Прасвятой Багародзіцы, якое падляшскія беларусы здаўна адзначалі асабліва, па-народнаму. Згодна з мясцовымі звычаямі госці атрымалі пячэнне ў выглядзе бусліных лап і сельскагаспадарчых прылад працы. Народнае святкаванне адкрыла таксама юбілейны X Падляшска-Палескі фестываль традыцыйнай культуры «Там по маёвуй росі», які закончыцца летам гэтага года прэзентацыяй фальклору ў нашых вёсках.



Калі я пад'ехаў пад Студзіводскі музей, аб зацікаўленні мерапрыемствам сведчыла шмат машын збоку дарогі. У вясковай музейнай хаце было мнагалюдна. Цешыла, што сярод сабраных было многа маладых асоб. Старшыня Дарафей Фіёнік на падставе паасобных касцюмаў «Жэмэрвы» расказаў аб колішняй святочнай вопратцы. Асаблівую ўвагу звярнуў ён на цікавую вышыўку жаночых і мужчынскіх строяў.



Дарафей Фіёнік і Анна Фіёнік побач часткі калекцыі ўбораў «Жэмэрвы»

Выпечкі ў выглядзе бусліных лап і сельскагаспадарчых прылад працы моцна смакавалі сабраным у музейнай хаце

— Арганізуючы выстаўку ўбораў з калекцыі «Жэмэрвы», мы хочам заахвоціць прынамсі спевакоў, якія выступаюць з неапрацаваным фальклорам, каб таксама пашылі сабе касцюмы на падставе ўзораў са сваіх або суседніх вёсак, — сказаў старшыня музейнага аб'яднання Дарафей Фіёнік. — Мы можам даць адрасы майстрых, якія могуць пашыць даўнія жаночыя кашулі і саяны, зрабіць адпаведную вышыўку. Па вёсках можна яшчэ знайсці саматканае палатно для кашуль, а на саяны трэба ўжо купляць сучасны матэрыял, падобны да таго з мінулага. Захаваліся колішнія ўзоры вопраткі з Малінніка, якімі маглі б пакарыстацца «Малінкі». Калі б, напрыклад, жанчыны са «Збучанак» не маглі знайсці ўзораў для вышыўкі ў сваёй вёсцы, маглі б пашукаць у суседнім Моры, Старым Беразове, ці Шастакове. Наш калектыў «Жэмэрва» выконвае традыцыйныя песні з розных рэгіёнаў Бельшчыны і Гайнаўшчыны і таму мы ўзоры для нашых касцюмаў бралі з розных вёсак. Трэба сказаць, што ўзоры ўбораў на нашай тэрыторыі падобныя, хаця адметна розняцца вышыўкай. Покі няма ў нас беларускіх калектываў, якія ўзялі б прыклад з «Жэмэрвы». Але я думаю, што памаленьку будзе ўзрастаць свядомасць у гэтым плане і пабачым яшчэ нашых спевакоў у даўніх уборах.

Сабраным спадабаліся прэзентаваныя на выстаўцы традыцыйныя ўборы, сярод якіх красуюцца вышытыя жаночыя *кашулі*, рознакаляровыя *саяны*, *сачкі* (камізэлькі), *парцякі* (парцяныя спадніцы), *фартухі*, а таксама мужчынскія *кашулі*, бо ў папярэднім складзе «Жэмэрвы» выступалі таксама хлопцы. Можна было параўнаць даўнюю вопратку, якая захавалася і была перададзена ў Студзіводскі музей (прэзентуецца ў музейнай кухні) і ўборы студзіводскага музычнага калектыву (размешчаныя ў двух пакоях), пашытыя бельскімі краўчыхамі і вышываныя мясцовымі вышывальніцамі, якія з'яўляюцца дакладнымі копіямі колішняй вопраткі. Сярод прэзентаванай вопраткі калектыву «Жэмэрва» таксама ёсць некаторыя арыгінальныя ўборы, або толькі даўнія вышыўкі, выкарыстаныя для выканання новага традыцыйнага адзення.

— Дзяўчаты з першага складу «Жэмэрвы» самі вышывалі кашулі. Гэта была іх уласнасць і таму забралі іх дамоў. Чарговыя ўборы выконвалі нам на заказ розныя майстрыхі. З ліку краўчых найбольш вопраткі пашыла нам Анна Копа, а сярод вышывальніц найбольш нашых кашуль вышылі Альжбета Ахрымюк і Анна Данілюк, — патлумачыла Анна Фіёнік, кіраўнік «Жэмэрвы».

На выстаўцы можна было захапляцца старой вопраткай і копіямі даўніх убораў з Плёсак, Малінніка, Пасынак, Крывой, Ягуштова, Відава, Гацькоў і вёскі Дольнае, якая стала вуліцай Гайнаўкі. Касцюмы «Жэмэрвы» выконваліся не толькі на падставе вопраткі, перададзенай жыхарамі вёсак у Студзіводскі музей, але таксама на аснове даўняга адзення з нашых тэрыторый, з калекцый Ратушнага музея ў Бельску-Падляшскім, Сельскагаспадарчага музея ў Цеханоўцы і Беларускага музея ў Гайнаўцы.

— Ільняное палатно, з якога выконваліся кашулі, цяжкавата прасаваць, але пасля чарговага мыцця становіцца яно шторааз прыгажэйшым, — заявіла Альжбета Фіёнік, кіраўнік тэатральнага калектыву «Антракт», што дзейнічае пры Бельскім доме культуры і дабавіла, што апошнім часам некалькі асоб з Бельшчыны і Гайнаўшчыны рашылася вянчацца ў царкве ў колішніх народных уборах.

Святочныя ўборы з мінулага, прэзентаваныя на выстаўцы, падыходзяць да клімату вясковай музейнай хаты, абсталяванай на даўні лад, дзе знаходзяцца таксама разнародныя даўнія прылады працы. Студзіводскі музей стараецца, каб як мага часцей арганізаваць мерапрыемствы ў музейных памяшканнях і ажыўляць іх у колішнім клімаце.

— У мінулым вясковыя людзі асабліва чакалі надыходу вясны і таму, апрача малітваў у цэрквах, трымаліся таксама народных абрадаў. Нашыя продкі ў час Благавешчання выходзілі на прыроду і клікалі вясну. Жанчыны пяклі цеста ў выглядзе бусліных лап і сельскагаспадарчых прылад працы, баран, ці кос, а выконвалі іх так, як патрапілі, — патлумачыў Дарафей Фіёнік дабравешчанскія абрады.

У Студзіводах вясну не клікалі, але выпечкі ў выглядзе бусліных лап і сельскагаспадарчых прылад працы, якія напяклі мама Дарафея Фіёніка і яго жонка Альжбета, смакавалі сабраным у музейнай хаце. Былі там некаторыя былыя спявачкі калектыву «Жэмэрва», які з красавіцкага мерапрыемства пачаў адзначаць свой юбілей. Амаль ад пачатку сачу я за дзейнасцю гэтага калектыву, які пачаў выступаць у ліпені 2003 года і відаць было, што ўсе склады гэтага калектыву прэзентаваліся на высокім мастацкім узроўні, а адначасна стараліся як мага найбольш згодна з аўтэнтыкай прэзентаваць нашы даўнія песні, запісаныя ад найстарэйшых жыхароў нашых вёсак.

— Праз «Жэмэрву» прайшло каля 30 асоб. Зараз выступае трэці склад. Ёсць надзея, што маладое пакаленне падменіць сённяшніх спевакоў, — заявіла кіраўнік калектыву Анна Фіёнік.

Студзіводскі музей выдаў 4 кампакт-дыскі з творамі ў выкананні «Жэмэрвы». Можа пазнаёміцца з імі шырокая публіка, зацікаўленая народным фальклорам. Рэпертуар калектыву «Жэмэрва» цікавы і разнародны. Людзі, якія захапляліся спевам «Арэшак» з Арэшкава, ці «Крыўчанак» з Крыўца (нядаўна частка жанчын з гэтага калектыву заснавала калектыў «Падляшанкі» ў Гарадзіску), захапляюцца таксама спевам «Жэмэрвы». Студзіводскі калектыў выступае з нашай падляшскай аўтэнтыкай, якая перадавалася з пакалення ў пакаленне ў вёсках, дзе жылі беларусы.

— Мяне зацікавіў фальклорны рэпертуар і я рада, што магла спяваць даўнія песні, — сказала Наталля Налевайка з Беластока, якая раней выступала ў «Жэмэрве».

Высокі ўзровень спеву студзіводскага калектыву гэта перш за ўсё заслуга кіраўніка «Жэмэрвы» Анны Фіёнік і рэзультат салідной працы самых маладых дзяўчат, якія састаўлялі аснову калектыву, а таксама і мужчын, якія іх успамагалі. Першы састаў «Жэмэрвы» паўстаў пасля вакальных майстар-класаў, наладжаных у Студзіводскім музеі. Пасля, калі дзяўчаты раз'язджаліся *па свеце*, на іх месца прыходзілі новыя маладыя спявачкі. Кадравыя праблемы дапамагала вырашаць таксама Альжбета Фіёнік, кіраўнік бельскага калектыву «Антракт». Асобы з «Антракта» траплялі ў «Жэмэрву», а яе састаў папаўнялі іншыя дзяўчаты. Пазней сталі спяваць таксама і хлопцы, якія мелі вакальныя здольнасці і пачыналі цікавіцца фальклорам. З часам настаўніца-бібліятэкарка Анна Фіёнік разам з настаўніцай пачатковага навучання Мар'яннай Ваўрусевіч заснавалі ў бельскай «тройцы» калектыў «Жэўжыкі», які ахвотна выступае з фальклорным рэпертуарам у час мерапрыемстваў, арганізаваных Студзіводскім музеем. Ёсць там здольныя дзеткі, якія могуць саставіць новы склад «Жэмэрвы», або нават хутчэй папоўніць існуючы склад. Студзіводская інструментальная капэла, у якой выступаюць Дарафей Фіёнік і яго сын Ілья, лічыцца капэлай калектыву «Жэмэрва». Бачым, што прэзентацыя нашага традыцыйнага фальклору ў Студзіводскім музеі ў вялікай ступені абапіраецца на ангажаванасць вялікай сям'і Фіёнікаў, якая была галоўным арганізатарам святкавання на Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы.

— Я спачатку выступала ў тэатральным калектыве «Антракт», а пасля фальклорных майстар-класаў у 2006 годзе стала спяваць у «Жэмэрве», што дазваляе прапагандаваць народны фальклор і захоўваць нашы традыцыі і беларускую культуру, — сказала Караліна Ігнацюк, якая яшчэ і зараз, калі вяртаецца ў Бельск, спявае са студзіводскім калектывам.

«Жэмэрва» не дала канцэрта, бо быў перыяд Вялікага посту. Але гаспадары святкавання запрасілі сабраных, а праз масмедыі запрашаюць таксама іншых аматараў аўтэнтычнага фальклору, на асноўную частку фестывалю «Там по маёвуй росі», якая адбудзецца з 14 па 16 чэрвеня ў гонар 500-годдзя існавання Падляшскага ваяводства і на шматлікія іншыя мерапрыемствы, якія будуць ладзіцца ад мая да жніўня гэтага года ў рамках фестывалю. Тады са сваім фальклорным рэпертуарам выступіць «Жэмэрва» і ў радасным настроі прадоўжыць святкаванне свайго 10-гадовага юбілею.

## Там, дзе шуміць вада

Уменне радавацца жыццю... Для кагосьці гэта дар прыроды. Для кагосьці маляўнічы куток прыроды, сустрэча шчаслівых закаханых. Радасць жыцця — гэта вялікая мудрасць зямнога жыцця, якой нам гэтак часта бракуе.

Там, дзе цяпер шуміць вада аднаго з найбольшых штучных вадаёмаў у Польшчы, калісь бурліла жыццё. Калі цяпер стаіш на берагу вадасховішча і глядзіш на яго каламутную ваду, не бачыш воднага млына на рацэ Луплянцы, якая дзяліла вёску на дзве палавінкі, не бачыш возера Ёзіка Гавенчыка. Бачыш вачыма душы хаты, сады, засеяныя збажыной палі. Не бачыш кароў на лугах, табуноў коней, што ваду п'юць з ракі Луплянкі, у вечнасць пралягла дарога, шырокая, быццам душа. Сядлай жа мне варанога, засвішчуць стагоддзі ў вушах...

Чуеш гоман дзяцей, аповеды старажылаў. Колю Рыгаровіча, Івана Буру — дзядзьку майго, Пецьку Салаўя, Колю Казберука... Вось з вёскі Лукі прыехаў у Рудню цяжкі воз з гаршкамі. Гэта ганчар едзе па вёсках са сваім таварам. А тут Валодзя Лаўрашук падаўся з фотаапаратам да Косці Крышаня зрабіць сямейны здымак. А з Рудні спеў, бывала, нясецца да вёсак Боўтрыкі, Гарбары, Рыбакі...

Гэты свет праглынула стыхія Семяноўскага вадасховішча. Але яна не змагла загубіць людскую памяць. Нельга яе заліць і затапіць. Пакуль жыве памяць, пакуль з сэрцаў плыве малітва за продкаў сваіх, датуль і жывуць затопленыя вёскі. Наступіць аднак час, калі апошні чалавек, народжаны і выхаваны ў затопленай вёсцы, адыдзе ў вечнасць. Ці ягоныя нашчадкі будуць памятаць сваю бацькаўшчыну?

Таму так патрэбнай была ініцыятыва ўстанаўлення памятнага крыжа, якой далі пачатак жыхары і выхадцы з гэтай старонкі. Каб увекавечыць памяць пра Рудню, каб папрасіць Госпада аб памілаванні. Памілаванні для сябе і для тых, што злачынства ўчынілі над гэтаю зямелькай і мясцовым людам. Ах, як бандарскія шэрыя блёкі ўеліся ў косці і душы нашы грызуць ад відна да цямна, ды гарачай іскрой злосці вярэдзяць іх.

Мая зямля, хацеў бы я цябе абняць. Ты заўжды мяне чакаеш, мая зямля. Абнаўленне памятнага крыжа ў Рудні гэта перш за ўсё выказванне нашай малітоўнай памяці аб продках. Гэта доказ нашай тут адвечнай бытнасці. Беларускай бытнасці.

**Віктар БУРА**

## Тут традыцыя не згіне

5 красавіка г.г. у святліцы ў Старым Ляўкове (Нараўчанская гміна) малады́я і старэйшыя жыхары мелі нагоду навучыцца маляваць яйкі, у тым выпадку і воскам, ды пячы „буславую лапу". Маляваць яйкі воскам вучыла Марыя Рэент са стараляўкоўскіх калёніяў, а рабіць „буслявыя лапы" — Лідзія Харкевіч.

На працягу трох гадзін удзельнікі г.зв. велікодных майстар-класаў памалявалі многа яек у самыя розныя ўзоры ды колеры. Цікавыя ўзоры атрымаліся з выявамі дробных лісточкаў, м.інш. пятрушкі. На заканчэнне заняткаў быў пачастунак. Мерапрыемства арганізавалі Галена Марыёля Рэент (кіраўнічка святліцы) і Альбжбета Кунцэвіч (старшыня Таварыства „Ятрышнік").

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Васіль САКОЎСКІ

# Было так


фота Аляксея МАРОЗА

У восьмым нумары „Нівы" ад 24 лютага 2013 г. змешчаны артыкул Юркі Ляшчынскага „Беларускія студэнты і музей". У ім, між іншым, чытаем: „У васьмідзесятыя гады ў разгар беларускага студэнцкага руху на музей мы, студэнты, глядзелі станоўча, але не падабалася нам другая частка яго назвы — „рэвалюцыйны рух". Быццам беларуская культура неад'емна спалучалася з гэтым „рухам". Неаднойчы казалі мы (але хто там слухаў студэнтаў), што „рэвалюцыйны рух" непатрэбны для нашага музея. Падобнага тыпу сумненні выказвалі і беларускія эміграцыйныя колы, а менавіта адтуль ішлі найбольшыя грамадскія ўзносы. Але казалі нам, што ў той час (...) раздзяляць рэвалюцыйны рух і беларускую духоўную і матэрыяльную культуру было немагчымым... Так тлумачылі нам (пераконвалі нас) тадышнія стваральнікі музея Канстанцін Майсеня і прафесар Аляксандр Баршчэўскі — актыўныя прапагандысты музейнай ідэі ў беларускім эміграцыйным асяроддзі...".

Мне здаецца, што гэты фрагмент і ўвесь артыкул кідае цень на светлай памяці Канстанціна Майсеню. А ён не заслужыў ад нас, беларусаў, гэтага. Канстанцін Майсеня быў адважным, разумным, сапраўдным беларусам, патрыётам — і прыслужыўся нашай беларускай справе як ніхто іншы з тутэйшых беларусаў. Заслужыў таксама, каб Музею і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы прысвоіць нарэшце яго імя і шанаваць аб ім памяць. А да гэтага штосьці не рвуцца нашы беларускія арганізацыі і дзеячы.

А цяпер давайце прыгледзімся спрэчным месцам у артыкуле Юркі Ляшчынскага. Я, напрыклад, не ведаю аб чым гаварыў Канстанцін Майсеня з беларускімі студэнтамі, але дакладна ведаю адкуль узялася другая частка ў першай назве гайнаўскага беларускага музея — „і рэвалюцыйнага руху". І рашуча не згаджаюся з аўтарам артыкула, дзе ён піша так:

„Мы, студэнты, на пабудову беларускага музея глядзелі станоўча і нават дапамагалі пры яго будове, але былі супраць спалучэння яго з „рэвалюцыйным рухам", ніхто аднак нас не слухаў. К. Майсеня наадварот: даказваў, што раздзяляць рэвалюцыйны рух і беларускую духоўную і матэрыяльную культуру проста немагчыма, бо „рэвалюцыйны рух" даваў шанц на існаванне беларускай культуры".

Хачу суцешыць былых студэнтаў, што ў той час не толькі іх не слухалі. Не надта слухала тады начальства нашых дзеячаў і Майсеню. І не таму да беларускага музея дачапілася назва „і рэвалюцыйнага руху", што таго хацеў Майсеня, а толькі таму, што іншага выхаду не было. Была яна папросту меншым злом, на якое змушаны быў пагадзіцца К. Майсеня — дзеля вялікай беларускай музейнай справы. І можа менавіта гэтаму „і рэвалюцыйнага руху" маем сёння прыгожы беларускі музей, а што ў ім не ўсё так, як хацелася б, гэта ўжо ўсіх нас віна.

А цяпер давайце думкамі вернемся ў той далёкі і складаны час і дакладна прасочым першыя крокі паўставання новага беларускага музея. Пры нагодзе прыпомнім яшчэ раз, што Канстанцін Майсеня быў актыўным, стваральным чалавекам і проста фанатычным пачынальнікам беларускай музейнай справы, нічуць не занядбоўваючы сваіх прафесійных службовых абавязкаў. Спробы стварыць беларускі музей, збіраць музейныя экспанаты паявіліся ў яго значна раней і не пакідалі ніколі.

Спачатку ўдалося яму стварыць Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы. Праўда, нецікавы лёс гэтага музея і многіх цэнных яго экспанатаў — яго хутка ліквідавалі, а экспанаты параздавалі, панішчылі. Ідэя захавання памяці нашчадкам аб нашым тут бытаванні, нашай багатай і самабытнай культуры не спадабалася нашым вяршыцелям і сталася тое, што сталася. Не ўсе аднак скарыліся, пагадзіліся з гэтым. Не пагадзіўся напэўна К. Майсеня — і чакаў больш спрыяльнага часу...

І такі час наступіў. У 1983 г. Гайнаўскае дрэваапрацоўчае прадпрыемства зліквідавала адзін цэх — і два будынкі засталіся вольнымі і нікому непатрэбнымі. А з часам сталі яны гарадскім уладам Гайнаўкі проста кампраметуючым баластам, бо рэгулярна іх раскрадалі, разбуралі, нішчылі і за гэта гарадское начальства крытыкавалася грамадствам. Вось таму, калі толькі Беларускае грамадска-культурнае таварыства звярнулася да гарадскіх улад з просьбай перадаць адзін з гэтых будынкаў-руін на беларускі музей, яны ахвотна згадзіліся. Праўда, пад цвёрдым варункам, што ў гэтым жа будынку, пасля адаптацыі яго, знойдзе сабе месца і „Музей рэвалюцыйнага руху", які неадкладна трэба было перанесці з будынка Пачатковай школы № 5, бо там не хапала месца для дзетак. Такой проста саламонавай развязкай былі задаволены абодва бакі: і беларусы на чале з Канстанцінам Майсенем, якія нарэшце атрымалі шанц на свой музей, і гарадскія ўлады, якія адным махам вырашылі дзве вельмі важныя для іх справы. Вось як выглядала праўда.

29 чэрвеня 1983 г. быў створаны Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Такая была яго першая назва. Старшынёй камітэта быў выбраны Канстанцін Майсеня, намеснікам яго — Янка Хіліманюк. І распачалася доўгая і клапатлівая работа старшыні грамадскага камітэта, яго членаў і ўсіх прыхільнікаў беларускага музея. На пачатак трэба было аформіць розныя дазволы, потым апрацаваць дакументацыю, прыдбаць будаўнічыя матэрыялы, адпаведных выканаўцаў і... І найважнейшае: запэўніць сталы прыплыў фінансавых сродкаў, немалых, зрэшты...

Дзеля гэтага члены грамадскага камітэта самі абклалі сябе падаткам на карысць музея і звярнуліся да нашага грамадства з заклікам збіраць экспанаты і грошы. Грамадства актыўна адгукнулася на заклік — і паплылі на музейны банкаўскі рахунак грошы, пачалі накопвацца экспанаты. Папаўнялі музейны рахунак даволі шчодрыя дзяржаўныя датацыі, грашавыя ўзносы ад народных саветаў, дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў, грамадскіх і царкоўных арганізацый, асабістыя ахвяраванні. Шчодрай рукою неслі сваю дапамогу беларусы з Беларусі. Дарылі ў асноўным дарагія і дэфіцытныя тады будаўнічыя матэрыялы, абсталяванне, музычныя інструменты... І падарылі машыну „Рафік", такую неабходную для нас тады. Беларусы са Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Германіі, Аўстраліі і іншых заходніх краін перадавалі такія цэнныя тады долары.

Не менш важнай, каштоўнай і пахвальнай была грамадская праца пры музеі. Працавалі дарослыя і школьная моладзь. Найбольш, канешне, вучні гайнаўскага беларускага ліцэя са сваімі настаўнікамі і прафесіянальнай школы з настаўнікам Мікалаем Нікалаюком. Вельмі частым і ахвярным грамадскім памагатым быў Аляксей Харкевіч. Не ўступаў ім і прыкаваны да інваліднай каляскі Юліян Казбярук — ён збіраў матэрыялы і пісаў „Хроніку музея". Актыўна прыкладаліся да грамадскай працы пры пабудове музея і многіямногія іншыя, якіх проста немагчыма цяпер пералічыць. Усіх нас склікаў да працы і дзякаваў за яе К. Майсеня. А цяпер дзякую ім я...

Усе тыя захады і дзеянні адбываліся, вяліся намаганнямі грамадскага камітэта пад нязменным кіраўніцтвам К. Майсені. Майсеню хтосьці мог любіць ці не любіць, але адказаць яму ў просьбе ніхто не мог. Ён проста быў такім чалавекам, які не лічыўся ні са сваім часам, ні са здароўем і рабіў усё гэта не дзеля ўласнай карысці, а для ідэі. Ды і жонка яго Насця была яму ў гэтым моцна дапаможнай. Дзякуючы ўсяму гэтаму ўжо ў 1986 г. магла распачацца будова музея. І яна распачалася...

У 1989 г. наступілі вялікія палітычныя змены ў Польшчы — і „Музей рэвалюцыйнага руху" стаў не толькі непатрэбным, а нават як бы кампраметуючым польскае грамадства. Вось так па волі лёсу з двух задуманых музеяў застаўся толькі адзін — Музей помнікаў беларускай культуры, які ў народзе называюць Беларускім музеем.

# Менская рэфлексія

Тэкст і фота Ганны МОРДАНЬ

Не так проста здзейсніць паездку ў Беларусь — самую блізкую да Падляшша краіну. Для таго, каб некалькі дзён правесці ў любой яе частцы, патрэбна загадзя адпаведна падрыхтавацца. Шчаслівы той, каго не хвалюе візавае пытанне, у каго ёсць доўгатэрміновая віза. Астатнім неабходна наведаць пасольства ці консульства, каб там — пасля прад'яўлення купленай страхоўкі і даказання ў анкеце, што мэтай візіту не з'яўляецца здзяйсненне тэракту — заплаціць 25 еўра за налепку ў пашпарце. Атрымаўшы каштоўны пропуск, можна рушыць у напрамку дзяржаўнай мяжы.


Новапабудаваны будынак між Траецкім прадмесцем і Востравам слёз

### Па вакзалах бяссонныя ночы?

Даволі бяспечным і надзейным сродкам транспарту з'яўляецца цягнік — калі не ўлічваць шоку, у які можна папасці, наглядаючы за працэсам прыхавання тавару на маршруце з Беластока ў Гародню. Тавар нетыповы для кантрабандыстаў — за пазуху, у нагавіцы і нават у чаравікі пасажыры запіхаюць кітайскай вытворчасці абутак і піжамы. Чым больш яны здолеюць накласці на сябе, тым лягчэйшая будзе сумка ў пункце памежнага кантролю ў Гародні. І гэта вельмі важна, бо дзяржаўнымі загадамі прывозіць тавары з Еўрасаюза можна ўсё менш і менш.

З-за таго, што вячэрні цягнік з Беластока прыбывае а другой гадзіне ночы па беларускім часе, на вакзале прыходзіцца чакаць да раніцы. Асабліва тады, калі Гародня — толькі прыпынак перад далейшым падарожжам. Але славутая фраза з песні вядомага гарадзенца: *па вакзалах бяссонныя ночы* магчыма страціла сваю актуальнасць. Зараз можна камфортна і вельмі танна пераначаваць у г.зв. пакоях адпачынку, якія знаходзяцца ў вакзальных будынках больших і меншых гарадоў Беларусі. У Гародні да таго ж яны свежа адрамантаваныя. Праўда, пры пасяленні ў іх таксама трэба падрабязна растлумачыць мэту сваёй паездкі. Камп'ютараў у службовых памяшканнях Беларускай чыгункі шмат, але афармленне рэгістрацыі ў пакоях адпачынку праводзіцца з дапамогаю праверанага вялікага сшытка, у якім падарожніку трэба ўласнаручна распісацца.

У сталіцу можна дабірацца з Гародні на цягніку (самы танны варыянт) або на прыватных маршрутках (самы хуткі). На гэткіх невялікіх аўтобусах можна прыперціся ў Менск усяго за чатыры гадзіны. Выгружаешся з маршруткі і вось перад табою сталічны горад-герой. Напачатку лютага ён моцна здзіўляе гурбамі замерзлага снегу, які на тратуарах імгненна можа пераўтварыцца ў брудныя лужыны. І такое ў сталічным горадзе. Хаця ў гэты час у Менску выпала неспадзявана многа снегу, тым не менш — машыны для яго ўборкі паявіліся надта позна.

### :B:N: у метро

Плануючы пабыўку ў Беларусі, у прыватнасці ў яе сталіцы, варта загадзя пазнаёміцца з культурнымі прапановамі горада. Калі аднак ты не ў курсе справы, нічога страшнага — афішы і пункты продажы квіткоў на канцэрты і спектаклі знаходзяцца ў любым падземным пераходзе ці на станцыі метро. Вось напрыклад — выходзіш з метро, а там на плакатах: канцэрт рок-гурту „Бяз Назвы", групы „J:Mors", Віктара Шалкевіча. Заходзіш у касу набыць квіток — побач афіша тэатра, рэпертуар на люты і сакавік (зверху ўручную пазначана *февраль* і *март*, каб ніхто не памыліўся, калі прыйсці).

### Глыток культуры

Менскі Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы асацыюецца галоўным чынам з пастаноўкамі па матывах творчасці „жалезных" класікаў. Таму ў гэтым сезоне цікава паглядзець спектакль *Офіс* паводле п'есы нямецкай драматург Інгрыд Лаўзунд. Перш за ўсё па той прычыне, што ён цалкам адрозніваецца ад астатніх тэматыкай, стылем і тым, што беларуская мова ў ім — сучасная, на ёй размаўляюць пра міжчалавечыя адносіны ў карпаратыўным офісе. Магчыма ў беларускай рэальнасці гэта крыху абстрактна, але спектакль успрымаецца прыемна — ён музычна добра аформлены, дынамічны, дасціпны. І хаця асаблівага эмацыйнага *катарсісу* ён не выклікае, застаўляе задумацца над шырока распаўсюджаным апартунізмам і фальшам у суадносінах з супрацоўнікамі, не толькі на працоўным месцы.

Пабыўка у беларускай сталіцы гэта выдатная нагода таксама для прыдбання выдавецкіх навінак. Легендарная ўжо кнігарня „Логвінаў", якая знаходзіцца побач з галерэяй „Ў" на праспекце Незалежнасці, 37, прапануе самы вялікі выбар беларускай літаратуры ды вартыя ўвагі кнігі іншамоўных аўтараў. У пачатку лютага ў менскім Белэкспа праходзіла вялікамаштабнае мерапрыемства — Міжнародны кніжны кірмаш. Сярод стэндаў дзяржаўных беларускіх выдавецтваў і выдаўцоў з сяброўскіх экзатычных краін СНД можна было злавіць вокам невялікі бокс Польскага інстытута, які на сваіх паліччках меў м.ін. беларускія пераклады выдатных польскіх паэтаў.

### Горад кантрастаў

Вячэрні, прыгожа асветлены Менск са сваімі вялікімі прасторамі, возерамі і паркамі, утульнымі вулачкамі і дарожкамі захапляе і ўражвае сваім спакоем. Пасля 22-й гадзіны наогул не працуюць пабы і рэстараны ў кліматычных раёнах, на вуліцах бяздумна не мітусяцца людзі, не чуваць шуму вялікага горада. Толькі агромністыя будынкі, укінутыя, напрыклад, паміж Траецкае прадмесце і Востраў слёз, цалкам не гарманізуюць з наваколлем. Яны вырастаюць, на жаль, адзін за адным і разбураюць ландшафтную эстэтыку горада.

Людзі ў Менску — як і паўсюль у Беларусі — гасцінныя, шчырыя, добразычлівыя. Падкажуць дарогу, усміхнуцца да разгубленых у краме пакупнікоў, якім часам цяжка разабрацца ў банкнотах з пяцццю нулямі пасля лічбы. На беларускую мову рэагуюць нармалёва, асабліва старэйшае пакаленне. Праблемы з разуменнем здараюцца часцей сярод маладзейшых — маладая афіцыянтка ў кавярні пасля запыту аб рахунак без злосці засмяялася: *Это счёт, да?*

Сутыкаючыся з людзьмі, пабываючы ў самых розных месцах і ўстановах, ніяк не можна выцесніць з галавы энэрэмаўскай песні пра падваенне асобы і адначасовае жыццё ў двух гарадах. У асяроддзі творчай, актыўнай моладзі, якая прынцыпова карыстаецца беларускаю мовай, займаецца мастацкімі праектамі і ініцыятывамі, ведае і прасоўвае невядомыя старонкі нацыянальнай гісторыі, сапраўды магчыма адчуць сябе ў *Менску*. Шкада толькі, што надта многа абставін не дазваляе забываць аб *городе Минске*. Няхай гэта прагучыць банальна, але хочацца ўзгадаць хваляванне: *Дык няўжо ж нам ніколі/ ня склеіць, ня сшыць/ Менск і Мінск — дзьве паловы/ сталічнай душы*?

Кожнае падарожжа ў Беларусь я ўспамінаю доўга і з прыемнасцю. Вяртаюся дадому з новым багажом — і вопыту, і эмоцый, і цікавых кніжак. Хаця б крыху спазнаць гэтую краіну кантрастаў, дакрануцца да жыцця ў іншай рэальнасці — дзеля таго варта адвесці некалькі дзён ці ўзімку, ці ў час канікулаў. Варта, бо рэфлексій і думак хапае тады да наступнага візіту ў консульстве па вул. Электрычнай у Беластоку.

## Нараўчанская каманда — найлепшая

16 сакавіка г.г. у Вышках адбыліся спаборніцтвы па настольным тэнісе для ахвотных з чатырох гмін: Бранькай, Гродзіскай, Нараўчанскай і Вышкаўскай на кубак старшыні праўлення Кааператыўнага банка ў Браньску. Спаборнічалі 124 асобы, якія з азартам змагаліся за перамогу. Пасля турніру быў адпачынак ля вогнішча пры печаных каўбасках.

У катэгорыі пачатковых школ другое месца заняў Якуб Салавей з Нараўкі. Сярод гімназістак перамагла Эмануэля Мірановіч перад Ізабэлай Касакоўскай — абедзве яны з Нараўкі. Сярод гімназістаў трэцяе месца заняў таксама прадстаўнік Нараўкі Матэвуш Лясота.

Сярод вучаніц сярэдніх школ перамагла Бэата Струк з Нараўкі, а сярод вучняў такога ж разраду — яе зямляк Адам Дзеніс.

У групе жанчын да сарака гадоў другое месца заняла Каміля Харкевіч, а сярод старэйшых перамагла Моніка Мірановіч — абедзве яны з Нараўчанскай гміны.

У групе мужчын да трыццаці пяці гадоў перамог Данель Грыц перад Давідам Скепкам, у старэйшай групе — да пяцідзесяці гадоў — трэцяе месца заняў Міхал Харкевіч, а ў групе найстарэйшых мужчын другое месца заваяваў Аляксей Харкевіч — усе яны з Нараўчанскай гміны.

Калі падвялі ўсе вынікі, нараўчанская каманда аказалася найлепшай. Віншуем!

## Курганы гавораць аб мінулым

Курганы ў Белавежскай пушчы адносяцца пераважна да X-XII стагоддзяў.

У 1917-1918 гадах нямецкі археолаг Гуга Конвенц даследаваў 35 курганоў, а ў 1969-1972 гадах польская даследчыца Ірэна Гурская 5 курганоў. Знайшла яна яшчэ пахаванне са шкілетнымі астанкамі з III стагоддзя ў наваколлі Белавежы ва ўрочышчы Замчыска. На могілках эпохі ранняга сярэдневечча былі знойдзены гаршчок, шкляныя пацеркі, бранзалетка і іншыя ўпрыгожанні з бронзы, а таксама крамянёвая сякера.

Ва ўрочышчы Шчэкатова ў Белавежскай пушчы знаходзіцца за сто курганоў з сярэдневяковымі пахаваннямі. Гэтае вялікае зборышча магільных насыпаў распалажона на ўсходнім беразе пераплываючай цераз пушчу рачулкі Лутоўні. Гэтыя курганы розныя па велічыні і форме; іх дыяметр вагаецца ад чатырох да шасці метраў, а вышыня не сягае метра. У іх былі знойдзены шкілеты, побач якіх захаваліся гліняная начынне, пацеркі, завушніцы ды бронзавы бранзалет.

У лесе паабапал дарогі з Васькоў у Нарву знаходзіцца звыш дзесяці курганоў з часоў ранняга сярэднявечча. Яны розная велічыні, найбольшы мае каля пятнаццаці метраў у дыяметры. Іх форма паказвае, што яны ўзніклі ў X-XII стагоддзях.

Якія скарбы можна яшчэ знайсці пад белавежскімі дубамі?

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

Анна БЯЛЯЎСКАЯ

## Вецер

Гуляе на моры, гуляе ў полі
Заўсёды прыдумвае новыя сваволі.
Закрунецца ў лесе, лісце пастрасае,
Вернецца ў вёску — хаты раскрывае.

Залатыя косы дзяўчыне распляце
І ў хату бабулі холад прынясе.
І яшчэ пакружыць ля твайго акна,
Не паспееш глянуць, ужо яго няма.

А калі зімой прыйдзе, каб мароз
прагнаць
Уцякай з надворка ў хату, бо холадна
стаяць.

Патрыцыя КАРЛАЎ

## * * *

Ты золатам у маёй кароне
Ты жамчужынай у маіх каралях
Ты дажджом у пустыні

Табе тысячы залатых руж
Табе тысячы кракадзілавых слёз
Табе золата з акіянаў

Ты маёй умілаванай
Ты зоркай маёй поўначы
Ты прызначана для мяне
Лёс даўно злучыў нас



Вучні трэцяга класа Гімназіі нумар 7 у Беластоку, ўсім гімназістам, якіх чакаюць экзамены, жадаюць поспехаў у дасягненні самых найлепшых вынікаў.

## Загадка (16)

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку" да 1 мая, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Даўганогі землямер**
**Схапіў жабу за каўнер,**
**Па траве павалачыў,**
**У канаве намачыў,**
**Вострым носам дзеўбануў,**
**Уздыхнуў і — праглынуў.**
**(В. Вітка)**

Адказ на загадку № 12-13: Пагоня. Узнагароды — беларускія кніжкі — выйгралі Лукаш Марчук з Нараўкі і Лукаш Аляйнікі з Арэшкава. Віншуем!

# Трэба многа вучыцца!

Інтэрв'ю
з **Камілем Сцепанюком,**
маладым геніем
з Бельска-Падляшскага.



У час урачыстага падвядзення вынікаў прадметных конкурсаў для гімназістаў Каміль быў узнагароджаны як лаўрэат па чатырох прадметных конкурсах. Але гэта далёка не ўсе яго навуковыя поспехі...

**„Зорка"**: — Каміль, найперш прымі віншаванні! Сёлета Ты лаўрэат па беларускай мове, фізіцы, хіміі, геаграфіі ды яшчэ фіналіст па польскай мове. У мінулых гадах Ты таксама быў лаўрэатам па іншых прадметах. Давай іх пералічым.

**Каміль Сцепанюк:** — Гэта руская мова, матэматыка, гісторыя...

**З:** — Неверагодна, разам аж сем прадметаў. Ці маеш апрацаваны свой метад, нейкі чарадзейны ключ да поспеху?

**КС:** (*Смяецца*) — Не, трэба многа вучыцца. А ў нас добрыя настаўнікі, так што прыемна працаваць...

**З:** — Сёння ў цябе вялікі дзень. Як адчуваеш сябе з такім поспехам? Якія гэта пачуцці?

**КС:** — Гэта радасць. Вельмі цешуся, што быў прачытаны разам з найлепшымі ў ваяводстве, атрымаў узнагароды.

**З:** — А які прадмет Табе найбольш цікавы? Увогуле ці ёсць такі прадмет, пра які безупынна думаеш?

**КС:** — Вельмі падабаецца мне гісторыя.

**З:** — Ці ведаеш ужо, што хочаш рабіць у жыцці? Ці ёсць у Цябе канкрэтныя планы наконт прафесіі?

**КС:** — Думаў аб біялогіі і хіміі ў ліцэі... Але яшчэ думаю...

Размова запісана 11 красавіка г.г. у беластоцкай гімназіі № 28, адразу пасля ўрачыстага вылучэння шматразовых лаўрэатаў па прадметных конкурсах для гімназій. Школа Каміля Сцепанюка прыдбала аж 38 лаўрэатаў і апынулася на трэцім месцы ў ваяводстве. Пра поспехі гімназіі імя Яраслава Кастыцэвіча напішам у чарговых нумарах „Зоркі".

# Як закляты скарб розум падвоіў

*(з народнага)*

Калі б не азірнуцца ў глыб стагоддзяў, беларусы заўсёды марылі пра багацце. У наваколлі Нарвы па сённяшні дзень кажуць: *Без грошы і свет не харошы!*

Вось аднаму дзядзьку прысніўся сон пра багацце. На яго полі, тры вярсты за вёскай, ля старой вярбы быў закапаны куфар з залатымі манетамі. Сарваўся чалавек, прыхапіў рыдлёўку і паляцеў на месца што прыснілася. Яшчэ ў дарозе ён адчуў, што яго нехта за руку вядзе.

— Ну, гэта не можа быць марна! — падумаў.

Сапраўды, калі ён стаў капаць, лапата ўдарыла аб нешта цвёрдае. Селянін выкапаў яму і нічога не знайшоў. Дык не. Замест куфра ён выкапаў вялікі камень.

— Во які я дурны! — папракнуў сябе, вяртаючыся стомлены дамоў. — За падшэптам чорта ўсю ноч лапатай перакідаў упустую. Добра, што хоць жонцы не сказаў…

На другі дзень камень увесь час стаяў у вачах. Селянін кінуў усё і пайшоў яшчэ раз паглядзець на выкапаны валун. А там — чары. У яме не было следу па валуне, быццам камень сам растварыўся ў паветры. Чалавек зразумеў, што ён адкапаў закляты скарб. І суцешыўся:

— Не такі ўжо я дурны, — падумаў пра сябе. — А што жонцы не гаварыў, дык разумны ў два разы.

ЗОРКА



Сяброўкі з праваслаўнай школы шлюць прывітанні чытачам „Зоркі"

# Музыка з кайфам

## Дай Дарогу!




Пачынаецца веласіпедны сезон. Асабіста ведаю прынамсі пару гуртоў, якія распаўсюджваюць ідэю турызму на веласіпедах (інакш, роварах) і яны на гэты раз сталі інспірацыяй для «Музыкі з кайфам». Гэта добрая ідэя, бо, калі спалучыць добрую музыку і ровар, атрымліваецца проста кайф — кайф ад жыцця.

Калі вы ўжо прыхільнікі роварных падарожжаў і разумееце ідэю свабоды, якую гэты сродак транспарту дае, дык прапаную звярнуцца ў бок гарадзенскіх выканаўцаў, для якіх ровар — адзін з сімвалаў свабоды, адначынку і радасці. Тут пералічыць трэба безумоўна «Людзей на балоце». Алесь Дзянісаў, лідар гурту, гэта прапагандыст такога стылю жыцця, любіцель сяброўскіх падарожжаў, ровараў і музыкі. Можам таксама спаслацца на «Дзецюкоў» і «Кальян» — гурты, якія таксама з'яўляюцца ідэйным здабыткам гарадзенскай сцэны і праявай актыўнасці Алеся, яго сяброў, у тым ліку і веласіпедыстаў!

Да гэтых разважанняў, якія вядуць не толькі па сцяжынах і дарожках Гарадзеншчыны, але таксама і Берасцейшчыны, заахвоціў мяне таксама гурт «Дай Дарогу!». Гурт родам з Берасця, дзе вядзе сваю музычную працу, спалучае рок-н-рольны драйв, які безумоўна можна змясціць у плыні панк-музыкі. Ён таксма з рэпам і яго сацыяльнай арыентацыяй мае шырокае гаданенне. Усё гэта «Дай Дарогу!». Апошнім часам музыкі падрыхтавалі акустычную праграму, у якой перакладі мову электрычных гітар на гукі акустыкі, захоўваючы сваю характэрную энергію. Праграму музыкі назвалі «Велаакустыка», таму горача заахвочваю паглядзець запісы канцэрта (даступныя, між іншым, на сайце **http://vk.com/dai_darogu**. Будзе гэта адказ на пытанне дзе і як ровары апынуліся ў кантэксце гэтага канцэрта, як і пра што гурт распавядае. А прэзентуецца ён вельмі цікава, што пацвярджае актыўная, захопленая публіка, бо «Дай Дарогу!» гэта гурт з гісторыяй. Працуюць ужо з канца 1990-х гадоў. Напэўна варта таксама дадаць адну цікавінку, бо яшчэ нядаўна назва гурту часцей за ўсё пісалася на рускай мове, а зараз з банераў і афішаў спаглядае на нас «ДАЙ ДАРОГУ!». Да сустрэчы на… роварных дарогах!

**i_basovka@o2.pl**

# „Тарцюф" у Нараўцы

На пачатку сакавіка ў Гімназіі ў Нараўцы вучні мелі нагоду пабачыць п'есу „Тарцюф" („Świętoszek") Мальера.

Спектакль глядзелі вучні I і II класаў гімназіі і вучні шостых класаў падставовай школы. Акцёры ў вялікім скарачэнні прадставілі найважнейшыя моманты п'есы. Дзякуючы пабачанаму, лягчэй было зразумець сэнс твора.

Вучні былі захоплены ігрой акцёраў. Кожны хацеў, каб спектакль быў даўжэйшы. Падабалася нам не толькі вопратка акцёраў, але і спосаб ігры. Мы пабачылі, што дзве асобы могуць дасканала іграць некалькі персанажаў.

Былі аднак і такія гледачы, якім спектакль не падабаўся. Але ці можа быць ім нешта цікавейшае, чым ігра на камп'ютары?

Тыя, якім падабалася, маюць надзею, што такія спектаклі будуць часцей гасцяваць у нашай школе.

**Наталля ВАСЬКО**
**Нараўка**

# Вершы Віктара Шведа

## Выйдзе ў людзі

— Што рабіць мне з сынам,
Хто мяне пацешыць?
Ён ужо нясцпынна
Што не ступіць — збрэша.

Не бядуй ты гэтак,
Сын будзе заўзятым
Рэдактарам газеты,
Або адвакатам.

## Размова ў сталовай

— Што на абед?
— спытаў хлапчына:
— Гусарская ў нас смажаніна.
— Я не гусар і ім не буду
І не хачу такога блюда.

— А што яшчэ?
— скажы дзяўчына:
— Смажаніна з бараніны.
Вось дасканала, дарагая,
За бараніназ прападаю!

# Польска-беларуская крыжаванка № 16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11:**

Стог, Пагоня, нос, паступмент, вернік, удача, рак, друг, ода, тамат, заказ.

Пуп, на, вуха, след, мост, рада, шчыт, манах, трон, крок, сто, Ада, га, адказ.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Магда Пташынская, Юля Лясота, Наталля Бірыцкая, Кшыштаф Бірыцкі, Ніна Марціновіч** з Нараўкі, **Магдалена Хвашчэўская, Кацярына Лаўрашук, Куба Шыманюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Каля Дубровы

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Пры больш важных нашых дарогах стаяць паказальнікі, якія інфармуюць пра межы паміж адміністрацыйнымі адзінкамі, якія тыя дарогі перасякаюць, напрыклад, пра гмінныя межы. Але на менш важных дарогах, напрыклад, павятовага ці гміннага рангаў, такіх паказальнікаў няма. Аднак зімою такія паказальнікі паяўляюцца — іх ставіць сама прырода. На тых перыферыйных дарогах, якія пралягаюць паміж вёскамі розных гмін, не прыбіраецца снег. Снег не толькі выконвае эстэтычную задачу, упрыгожваючы краявід — ён, здалёк ад гарадскога транспарту, бялюсенькі, — але таксама нясе гэтую асаблівую інфармацыйную нагрузку.

Такая, вось, дарога між Бернікамі, што ў Сідранскай гміне, і Сынкоўцамі, што ў Навадворскай. Асаблівa ў лесе, дзе снег ахоўваецца перад сонечным разрушэннем засенню дрэў; ахоўваецца ён таксама тымі ж дрэвамі перад ветравой эрозіяй. Чатыры кіламетры паўлыткавай таўшчыні снегу паміж згаданымі мясцовасцямі даюць нагоду не толькі выдатна разварушыць суставы і мышцы, але таксама выконваюць неблагую кіслародазаправачную ролю. Дзеля добрага самаадчування ў зімовы час варта прайсціся па нейкіх гмінных абмежках.

У Сынкоўцах накіраваўся я зайсці да ніўскага знаёмага, да спадара Валянціна Гічана, каб дачуцца ад яго, што чуваць у тамашнім наваколлі. Аднак спадара Валянціна я не застаў. На вуліцы жанчына ў гадах, прыгорбленая і з кіёчкам, пацікавілася, ці я не за вадою або святлом, а пачуўшы адмоўны адказ накіравалася ў панадворак, у глыбі якога паказалася таксама жанчына з кіёчкам, яшчэ больш прыгорбленая. Амаль насупраць таго панадворка малады мужчына выбіраў са склепу бульбу. Пацікавіўся я ў яго, ці не ведае, дзе можа быць мой знаёмы. І даведаўся я, што спадар Валянцін у гэтую, заходнюю частку вёскі не ходзіць, толькі бывае ў другім яе канцы. Значыць, у нашых мясцовасцях такі больш-менш грамадскі лад, як і ў нашым Сейме, дзе розныя групоўкі гуртуюцца ў вызначаных месцах: лявіца з левага боку маршалкавага спектра, а правіца — з правага. Значыць, наш вярхоўны орган верна адлюстроўвае сітуацыю ў глыбінцы. Можа хто з нашага народу наракае, што наш Сейм такі ці сякі, а ён жа ж мае чыста народныя карані...

Калі я ўжо крыху аддаліўся ад майго інфарматара, ён уздагонку мне паслаў пытанне:

— A asfalt u nas będą kłaść może, kiedy?

Калісь, як вераць вернікі, былі прарокі, якія гадалі будучыню, але сёння, здаецца, складана прарочыць нават пра мінулае, напрыклад, пра падзеі на смаленскім аэрадроме трохгадовай даўнасці, імгла над якім ніяк не можа прасветліцца ў нашай Найяснейшай. А якіх жа прарокаў можа цікавіць асфальт у Сынкоўцах?..

З дарогі, што ад Сынкоўцаў у Кудраўку, паказваюцца вежы ружанастоцкага санктуарыя. Але туды яшчэ шмат дарогі, у тым ліку і разгалінаванняў без паказальнікаў, дзе таксама неяк трэба прарочыць, які выбраць напрамак. Як на разгалінаванні перад Кудраўкай...

У Кудраўцы калісь быў маёнтак, ад якога зараз асталіся, бадай, толькі каменныя сцены аднаго будынка з усё яшчэ вартуючымі яго дзвярмі; відаць, апошнія былі выкананы з дубу. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага так у царскі час згадваў пра гэтую мясцовасць: wieś i dobra, pow. sokólski, gm. Makowlany, 25 w. od Sokółki. Wieś ma 214 dz[iesięcin]; dobra, Ejnarowiczów, 181 dz.; значыць, маёнтак займаў амаль палову вясковага абшару.





Ружанастоцкі санктуарый

Сумны лёс маёнткавых збудаванняў трывожыць карпатлівых жыхароў іншых сядзіб і за іхнія хаты. Вось амаль насупраць таго згаданага каменнага рэлікту даўніны стаіць хата, перад якой не толькі абярэжны крыж, але на сцяне за крыжам яшчэ прыбіты пяць падкоў, згодна прынцыпу: і Богу свечку, і чорту абгарак. Зыгмунт Глогер так быў пісаў пра падкову: „Był stary przesąd, że podkowa końska znaleziona na drodze i przybita na progu mieszkania chroni je od czarownic i czarów. Lud wiejski przechował te wierzenia dotąd. Ks. Janota powiada o ludzie galicyjskim, że kobiety, aby dowiedzieć się, która baba jest we wsi czarownicą, rozpalają w ogniu podkowę znalezioną i kładą do skopca [вядра] w wodę lub polewają mlekiem zepsutem na progu, a baba, która wówczas nadejdzie, jest czarownicą i musi wziąć źdźbło słomy ze strzechy, gdzie te środki przeciwko niej robią”.

У Бутрымаўцах спатыкаю мужчыну сярэдняга ўзросту, якога распытваю пра тамашні школьны будынак. Быў ён узведзены ў другой палове 1950-х гадоў, а да таго часу дзеці вучыліся ў розных сялянскіх хатах. У школьным будынку тры кватэры, якія былі прызначаны настаўнікам. І зараз тыя кватэры абжытыя, але апошнія школьныя памяшканні пустуюць. Слоўнік Каралеўства Польскага называў вёску Бутрымаўцамі і паведамляў, што займала яна 244 дзесяціны.

Бутрымаўцы распаложаны на ўсходнім краю даліны рэчкі Сідры. З гэтай даліны не відаць вежаў ружанастоцкага санктуарыя, але заміж іх паказваюцца купалы ячніцкай царквы. Санктуарый засланяе невысокая града, якую ледавік пакінуў ад заходу рачной даліны. Такую граду называлі таксама грэбенем і мабыць з гэтага і пайшла назва распаложанай там вёскі.

На даху мураванкі, што пасярэдзіне Грабянёў, мужчына наводзіць тэлевізійную антэну. Можна гэта назваць знакам часу, бо ж неўзабаве наша тэлебачанне пераключыцца з аналавага вяшчання на лічбавае і дзеля гэтага трэба добра падрыхтавацца да прыёму навінкі. Як да хрысцін, бо ж зараз тэлевізар з'яўляецца па сутнасці важным сямейнікам, толькі яго трэба карміць не бульбай з квасам, але штомесячным абанементам.

Ландшафтны тамашні грэбень пераключае і краявізію: хаваецца ячніцкая царква і паказваецца ў поўнай красе ружанастоцкі санктуарый. Слоўнік: „Różanystok, dziś Krasnystok, Krasnostok, wś i uroczysko, pow. sokólski, gm. Kamionna, o 27 w. od Sokółki, 30 w. od Grodna, w pobliżu mka Dąbrowa, posiada cerkiew paraf., przerobioną po 1866 z kościoła katol. Par. prawosł. dekanatu (błahoczynia) sokólskiego, 1484 wiernych. Poprzednio znajdował się tu wspaniały kościół i klasztor ks. dominikanów, z cudownym obrazem N.M.P., wymalowanym w Grodnie w 1652 r. przez protestanta, na zamówienie Szczęsnego Tyszkiewicza, stolnika derpskiego. Obraz ten, pomieszczony pierwotnie w domu Tyszkiewicza w Krzywym Stoku, zasłynął cudami i w 1659 r. przeniesiony został do drewnianego kościoła, wzniesionego przez Szczęsnego i Eufrozynę Tyszkiewiczów, na folwarku Tabańszczyzna, alias Krzywy Stok, od mnóstwa róż przezwanym Różanym Stokiem. Wkrótce potem Tyszkiewicz wywiózł obraz na Podlasie, pomimo to jednak dostał się w ręce Szwedów, którzy porzucili go w jakiejś wsi, zkąd dostał się na czas krótki do kościoła juchnowieckiego, a w 1660 r. przeniesiony został napowrót do Różanego Stoku. Jednocześnie, za zezwoleniem biskupa, Tyszkiewicz sprowadził tu 12 dominikanów, wymurował dla nich niewielki klasztorek. Gdy w następstwie tutejszy obraz Bogarodzicy zasłynął licznymi cudami i począł ściągać pątników z dalekich stron, kościół okazał się niedostatecznym, w skutek czego dominikanie w 1759 r. postanowili z własnych funduszów wznieść duży murowany kościół z odpowiednim klasztorem. Budowa kościoła ukończoną została w 1785 r., klasztoru zaś dopiero w 1794 r. Parafia tutejsza w 1859 r. miała do 3400 wiernych. Główne odpusty miały miejsce: na Zielone Świątki, w dzień św. Piotra i Pawła i N.M.P. Różańcowej i ściągały po kilka tysięcy pobożnych z bliższych i dalszych okolic”. Варта да гэтага дадаць, што касцёл быў будаваны на такі сам архітэктурны лад, як і гродзенскі касцёл езуітаў, узведзены ў 1647-1663 гадах.

А як жа пачалося тое *przerobienie*? „Вестник Западной России” з 1867 года пісаў так: „Сокольскій благочинный донесъ консисторіи, что бывшій рожаностокскій по-монастырскій костелъ, по распоряженію гражданскаго начальства, закрытъ 15-го сентября [1866 г.]; 16 сентября изъ этого костела были устранены все римско-католическіе принадлежности; 17-го числа, въ исходе 11-го часа, утромъ онъ — благочинный служилъ предъ особенно чтимою иконою Пресвятой Богородицы молебенъ съ многолетіемъ Его Императорскому Величеству и всему Царствующему Дому, святейшему правительствующему Синоду и члену онаго высокопреосвященнейшему Иосифу [Сямашку], митрополиту литовскому и виленскому, всему христолюбивому воинству и всемъ православнымъ христіанамъ; тогоже числа въ 6-ть часовъ вечера совершено всенощное бденіе; на другой день въ 10-тъ часовъ утра начались часы и обедница, затемъ сказано было приличное слово къ народу; и наконецъ молебенъ съ Акафистомъ къ Пресвятой Деве. Народъ молился съ видимымъ на лицахъ умиленіемъ; православные отличались неподдельною радостію — римскіе же решительно этимъ не огорчались, и участвовали въ молитвахъ къ Пресвятой Деве, по своему обыкновенію, стоя на коленахъ и молясь тихо и усердно. На вечерне весь народ молился съ прежнимъ усердіемъ”.

Партал Беластоцкай архідыяцэзіі: „W 1901 r. Różanystok przekazano mniszkom prawosławnym z Grodna. Za ich czasów najwięcej zrealizowano inwestycji, ale i dokonano największych dewastacji w kościele. Zburzono dwa boczne ołtarze, zniszczono organy i dzwony”.

Вінцэнты Кшыштофік, колішні жыхар вёскі Ясяноўка, якая зараз вуліцай у межах Дубровы, пісаў у 1933 годзе: „Rząd rosyjski prawosławnych uważając za swoich, wszelkiemi siłami starał się i katolików przechrzcić na prawosławie; klasztor w Różanym Stoku stał się punktem operacyjnym dla tych poczynań. Nie szczędzono rządowych pieniędzy klasztorowi, w którym przełożoną była krewna cara. To też folwark w Różanym Stoku i sąsiedni majątek Kalno [цяпер у межах Дубровы], który przeszedł we władanie tego klasztoru, jako placówka kulturalna stał się wzorem dla całej okolicy. W Różanym Stoku pobudowano wiele domów, założono szpital, gdzie ludność mogła się bezpłatnie leczyć, ochronkę, robiono rozmaite imprezy, wystawy i t.p. W Kalnie rozwinięto wspaniałą hodowlę ryb ze wszystkiemi nowszemi urządzeniami, obejmującą około 8-10 ha obszaru. Był nawet podobno projekt wybudowania całego miasta, tak by się Różany Stok połączył z Dąbrową”.

Партал: „W sierpniu 1915 r. mniszki uciekły z Różanegostoku przed nadciągającymi wojskami niemieckimi i zabrały ze sobą słynący łaskami obraz Matki Boskiej. W trakcie działań wojennych klasztor zamieniono na koszary, a kościół na magazyn. W listopadzie 1918 r. kościół został przekazany duchowieństwu katolickiemu. W wyniku starań biskupa i proboszcza do Różanegostoku przybyli w listopadzie 1919 r. księża salezjanie. Odtąd opiekowali się oni parafią i rozwinęli szeroką działalność oświatową i wychowawczą...”. Партал дадае, што побач Domu Księży Salezjanów знаходзіцца і Dom Sióstr Salezjanek, але як сёстры туды трапілі — партал тактоўна змоўчвае. Бо ці ж пра ўсё можна пісаць, пра ўсё мора разліўное?..

# І не мусім тлумачыцца

Размова з **Марынай Дашук**, дырэктаркай незалежнага мінскага «Korniag Theatre», які мае супрацоўнічаць з беластоцкім Драматычным тэатрам імя Аляксандра Вянгеркі, цяпер стыпендыяткай польскага міністра культуры і нацыянальнай спадчыны ў рамках стыпендыяльнай праграмы «Gaude Polonia» (гэтыя паўгадовыя стыпендыі прызначаюцца на конкурснай аснове для маладых пісьменнікаў і перакладчыкаў з Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у тым ліку з Беларусі).


Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Мацей Халадоўскі: — У апошнія тыдні я Вас часта бачу ў Польшчы. Што Вы тут робіце?

Марына Дашук: — Я на стыпендыі «Gaude Polonia». Мой праект выйграў гэты конкурс.

**— Што гэта за праект?**

— Я займаюся штодзень галоўным чынам тэатральным менеджментам. У Беларусі гэтая сфера не цалкам развітая. Гэтага ніхто не вучыць, у ніякім універсітэце. У Польшчы, у сваю чаргу, ёсць шмат месц, дзе я магу навучыцца менеджменту. Так што я вырашыла паехаць у Лодзь у «Фабрыку мастацтва» (установа з адукацыйным профілем, якая ў сваёй дзейнасці імкнецца наблізіць розныя галіны культурнай творчасці — М. Х.), таму што гэта тое месца, якое ў бліжэйшы час павінна з'явіцца ў Беларусі, якое абʼядноўвае некалькі незалежных структур: тэатр, выяўленчае мастацтва і многае іншае. Такі арт-цэнтр. У Мінску ўжо досыць шмат такіх самастойных мастацкіх праектаў, галерэя «Ў» ці наш тэатр, якія ў хуткім часе павінны сканцэнтравацца вакол падобнага культурнага цэнтра. Гэта неабходна, каб зрабіць шмат цікавых чарговых творчых дзеянняў. Я хачу пабачыць на прыкладзе «Фабрыкі мастацтва» як у Польшчы, з фармальнага пункту гледжання, такія цэнтры функцыянуюць, як яны замацаваны законам, як здабываюцца імі грошы, што з'яўляецца іх сілай. Таксама працягваю паралельна супрацоўніцтва нашага тэатра з «Харэяй» (авангардны тэатр, шукаючы пры дапамозе сучасных сродкаў натхнення ў старажытнай Грэцыі — М. Х.), з якой неўзабаве будзем рабіць разам спектакль.

**— А як гэта здарылася, што Вы атрымалі стыпендыю «Gaude Polonia»?**

— Усё вельмі проста: я напісала праект, і падала яго ў польскае Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны. Многія з маіх сяброў з Беларусі гаварылі пра яго шмат добрага, і некаторыя з іх выкарыстоўвалі гэтую стыпендыю.

**— Што значыць — быць незалежным тэатрам у Беларусі.**

— Мы не з'яўляемся адзіным незалежным тэатрам. Нас у Мінску адносна шмат. Гэта Оля Скварцова і Слава Іназемцаў ці калектыў «Каракулі». З дзесяць такіх незалежных тэатраў можна пералічыць. Незалежнасць у тэатры значыць тое ж, што незалежнасць наогул. Гэта незалежнасць ад каго-небудзь ці чаго-небудзь. Наш тэатр не мае ніякіх доўгатэрміновых рэпертуарных планаў. Мы не абавязаны ставіць прадстаўленне ў нейкіх рамках: у акрэслены час і месца. Хочам зрабіць спектакль і ёсць час, тады яго зробім. Ніхто не дыктуе нам нічога. Самі вырашаем, што хочам паказаць. Нейкім абмежаваннем з'яўляецца час працы акцёраў у іх родных тэатрах, дзе кожны дзень яны працуюць, а іграюць таксама ў спектаклях Жэні Карняг (мастацкі кіраўнік тэатра і яго рэжысёр — М. Х.).

**— І якая цана гэтай незалежнасці?**

— Вакол Жэні Карняг засяроджана шмат маладых людзей. Мы пачалі з невялікіх тэатральных праектаў. Пачало прыходзіць на спектаклі шмат гледачоў, мы пачалі ездзіць на фестывалі. Выконваем ролю тэатра-студыі. Адзінае, чаго нам не хапае, гэта месца для рэпетыцый. Такім чынам мы не можам нармальна працаваць на рэгулярнай аснове. Атрымліваецца нам ставіць спектаклі, арандуем залы. Ніхто нас з боку дзяржавы не фінансуе, але затое мы не павінны нікому, не трэба тлумачыцца чыноўнікам з таго, што мы робім.

**— Беларуская ўлада любіць тэатр?**

— (Смяецца). Мабыць, любіць. Рамантуе ж шматлікія тэатры ў Мінску, скажам, тэатр імя Янкі Купалы і ці Маладзёжны тэатр. А які прыгожы Тэатр оперы і балета.

**— Такім чынам уплывае на тое, што адбываецца ў ім?**

— Вядома. Як і на ўсё ў нашай краіне. У дзяржаўных тэатрах ёсць планы ў адпаведнасці з дзяржаўнай палітыкай.

**— Што можна і чаго нельга рабіць у дзяржаўных тэатрах?**

— Я не ведаю. У дзяржаўным тэатры працавала я ўсяго два месяцы. Не ведаю, наколькі арт-дырэктары маюць незалежасць адносна рэпертуару, і ў якой ступені ўплывае на гэты рэпертуар Міністэрства культуры. І, шчыра кажучы, мяне гэта не цікавіць таму, што тое, што адбываецца ў апошні час у дзяржаўных тэатрах, не мае ніякай мастацкай каштоўнасці. Мне не хочацца ўжо звяртаць на гэта ўвагі і марнаваць час.

**— Чаму яны не маюць ніякай каштоўнасці?**

— Яны арыентаваны ў першую чаргу на камерцыйную дзейнасць, а не на мастацкую. Тэатры вымушаныя зарабляць грошы. У сувязі з гэтым і ставяць адпаведныя спектаклі, каб трапіць у густ аўдыторыі. Такім чынам рэалізуюцца забаўляльныя спектаклі для масавага продажу. Мастацкі ўзровень у той жа час становіцца ўсё ніжэйшы і прымаецца пад увагу ў нейкім далейшым плане.

**— Значыць, у цяперашні час няма паранейшаму месца ў тэатральнай прасторы Беларусі на такія тэатры, як «Свабодны тэатр» Мікалая Халезіна, які працуе ў выгнанні, які кранае палітычныя і сацыяльныя праблемы?**

— Павінны быць у Беларусі такія тэатры, якія распавядаюць пра найбольш важныя сацыяльныя праблемы. На шчасце, «Свабодны тэатр», хаця мае сваю галоўную сядзібу за мяжой, у Беларусі паказвае свае спектаклі. І калі гаворка ідзе аб дзяржаўныя тэатры, дык нашто маюць яны займацца стаўленнем пытанняў, калі іх роля — зарабляць грошы.

**— У апошні час Аляксандр Лукашэнка наведаў Тэатр імя Янкі Купалы і заявіў, што гэтая галоўная сцэна Беларусі, нацыянальны тэатр, мае зарабляць на сябе ў 85 адсотках...**

— Падрабязнасцей не ведаю. Сама даведалася пра гэта з інтэрнэту тут, у Польшчы. У любым тэатры гэта немагчыма. Нідзе яны не ў стане самафінансавацца ў такой ступені, асабліва пры такіх нізкіх цэнах білетаў як у нас.

**— Чаму адзін з Вашых нядаўніх выступаў «Спектакль № 7» гаворыць пра страх, якраз пра страх. Спытаюся інакш: чаго сёння баіцца сярэдні беларус?**

— Між іншым таго, што рана ўстане, а долар аказваецца ў тры разы даражэй, чым мінулай ноччу, калі ён лёг спаць. І разумее, што раптам з дня ў дзень яго зарплата стала ў тры разы меншай. Беларусам па-ранейшаму даводзіцца мець справу з нечаканым. Гэты страх звязаны з нестабільнасцю, якраз з тым, што будзе заўтра, асабліва калі не маеш кватэры і прыходзіцца яе арандаваць, і раптам аказваецца, што няма з чаго за яе заплаціць. Мяне па крайняй меры гэтая праблема па-ранейшаму кранае.

**— Калі «Korniag Theatre» з'явіцца ў Польшчы?**

— Напэўна ў верасні на музычна-тэатральным фестывалі ў варшаўскім тэатры «Рампа». Усё паказвае на тое, што будуць на ім з Беларусі таксама кабарэ-бэнд «Серебрянная свадьба» і рок-група «Ляпіс Трубяцкой». Раней 31 мая ў Польскім тэатры ў Познані, а таксама 1 і 2 чэрвеня ў тэатры «Швальня» ў Лодзі будзе паказаны нямецка-польска-беларускі спектакль «Перамешчаныя жанчыны» ў рэжысуры Монікі Дабраўлянскай (якая часта працуе з беларускімі акцёрамі), які рыхтуецца ў берлінскім тэатры імя Максіма Горкага. Гэта погляд немкі, полькі і беларускі на тое, што здарылася падчас апошняй вайны. Жэня Карняг з'яўляецца харэографам гэтага спектакля.

**— А ў Беластоку?**

— Разважаем з Агнешкай Карыткоўскай-Мазур (дырэктарка Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі — М. Х.) аб рэалізацыі сумеснага праекта. Напачатку можа Жэня Карняг павядзе майстар-клас і праме ўдзел у чытаннях п'ес. Мы хацелі б, вядома, таксама паказаць у Беластоку па крайняй меры адзін з нашых спектакляў.

**— Дзякую за размову.**

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Рэчаіснасць Паўла Грэся

Ксёндз-беларус, трансвестыт, праваслаўны — гэта прадстаўнікі меншасцей, якія да сёння выклікаюць розныя пачуцці ў жыхароў сённяшняй Польшчы. Гэтыя асобы адначасова з'яўляюцца героямі фільмаў маладога мастака. Фільмы разбураюць у гледача ўяву аднастайнага свету і прымушаюць да рэфлексіі. Прынамсі з такім намерам стварае фільмы Павел Грэсь — артыст з Гарадка.

— Тэмы гэтых фільмаў важныя для нас як беларусаў і думаю, што перш за ўсё тут ёсць месца на тое, каб аб гэтым размаўляць і сканфрантаваць мае творы з рэакцыяй людзей з беларускага асяроддзя, — сказаў Павел Грэсь, які быў госцем спаткання дыскусійнага клуба АБ-БА. У час сустрэчы, якая прайшла ў «Склепе з культурай» па вуліцы Чанстахоўскай, яе ўдзельнікі размаўлялі аб мастацкім запісе рэчаіснасці. Прысутныя маглі паглядзець фільмы Паўла Грэся, між іншым «Сведка гісторыі» і «Palimpsest».

«Сведка гісторыі» гэта фільмавы запіс выступлення Пятра Младзяноўскага, які памятае пацыфікацыю яго роднай вёскі Залешаны атрадам «Бурага». Першая канфрантацыя сведкі гісторыі з сучаснай публікай прайшла ва Уяздоўскім замку ў Варшаве. Якраз з гэтай сустрэчы паўстаў фільмавы запіс, які паглядзелі ўдзельнікі дыскусійнай вечарыны, наладжанай АБ-БАй.

— Паводле мяне важным было тое, што Пятро Младзяноўскі расказваў гэтую гісторыю варшаўскай публіцы па-беларуску. Гэта для адных гледачоў было зразумелым, для іншых — менш, — сказаў Павел Грэсь. — Сам спадар Младзяноўскі з'яўляецца настолькі адкрытым чалавекам, што не баяўся карыстацца сваёй мовай сярод чужых людзей.

У чарговым фільме «Palimpsest», прэзентаваным у час сустрэчы, можна было пазнаёміцца з Евай Галушка, якая нарадзілася ў Беластоку як Марк Кірыл Галушка. Яна дзейнічала ў незалежным прафсаюзе «Салідарнасць», займалася даследаваннем беларускай меншасці, а таксама дзейнічала ў карысць транссексуальных людзей. Яе дзяды паходзяць з-пад супрасльскай вёскі Цяснэ. Аднак сам фільм не з'яўляецца гісторыяй жыцця Евы Галушкі.

— Для мяне самым цікавым у Еве было тое, што яна з перспектывы праваслаўнай асобы родам з Падляшша змагла таксама ўбачыць беларускасць у ксяндзы Юрым Папялушку, — адзначыў Павел Грэсь. — Ева Галушка сябравала з ксяндзом Папялушкам. Гэта ёй ксёндз Юры меў сказаць, што да 14 года жыцця не размаўляў на польскай мове, толькі на беларускай гаворцы Сакольшчыны.

Ева Галушка да сёння жыве ў Варшаве. Пасля двух з паловай года беспрацоўя страціла сваё памяшканне і пераехала ў хату, якую пачаў будаваць яе бацька. Год жыла яна без вады ў цяжкіх жыллёвых умовах.

— У яе гісторыі найважнейшая для мяне праўда. Яна дала сабою прыклад таго, як нярэдка цяжка жыць у праўдзе, — сказаў Павел Грэсь.

Сцэны да фільма «Palimpsest» былі зроблены ў час паломніцтва Евы Галушкі на святую гару Грабарку, у Акопах — роднай вёсцы кс. Юрыя Папялушкі, а таксама ў хаце сям'і ў вёсцы Цяснэ.

Варта згадаць, што Павель Грэсь вядомы перш за ўсё як фатограф. Завершыў ён вучобу ў Сілезскім універсітэце ў Чэшскай Алаве на факультэце творчай фатаграфіі. Найбольш вядомы праект Паўла Грэся — гэта «Меляшкі». Тут паказаў ён на серыі здымкаў жыхароў амаль вымерлай падляшскай вёскі. Першая выстава здымкаў мела месца якраз у Меляшках. Тут на платах і сценах вясковых хат можна было паглядзець эфект артыстычнай працы Паўла Грэся.


Фота Уршулі ШУБЗДЫ

На пытанне, пастаўленае вядучым сустрэчу Міколам Ваўранюком, чым кіруецца ў падборцы тэм, герояў ці спосабу запісу, Павел Грэсь адказаў:

— Калі пачынаю займацца нейкай тэмай, не патрабую браць адразу фотаапарат ці камеру ў рукі. Калі адбудзецца нейкі працэс у галаве — тады пачынаю працу. Пазней вырашаю ці будзе гэта запіс на камеры ці ў форме здымкаў. Шукаю асоб, якія могуць расказаць пра такія рэчы, якія ім з'яўляюцца важнымі. Аказваецца, што яны маюць моцны характар і тым больш мне хочацца паказаць іх гісторыю.

**Уршуля ШУБЗДА**

# З мінулага вёскі Чаромхі

Чаромха — каралеўская вёска. Упершыню мясцовасць упамінаецца ў 1560 годзе як „месцке сяло", якое належала мястэчку Кляшчэлі. Можна здагадвацца, што пачаткі сягаюць не менш чым паловы XVI стагоддзя, калі вёска самавольна засялялася пасяленцамі тадышняй Бельскай пушчы. Хто прысвоіў назву вёсцы і калі гэта было, пэўна не ўдасца высветліць. Мабыць, пачатковая назва Нурэц выходзіць ад аднайменнай рэчкі, і так пэўна была прад'яўлена каралеўскаму чыноўніку. У 1660 годзе ў дакументах упершыню з'яўляецца двайная назва „Нурэц, інакш звана Чаромха", а ў запісах ад 1784 года існуе ўжо як вёска Чаромха. У наваколлі тады, як і зараз, расло шмат кустоў чаромхі звычайнай. Магчыма, што ад гэтага дрэва і вёска прыняла назву.

Вёска Чаромха мае багатую, да канца не даследаваную, гісторыю. Вядома, што ў час шведскага патопу (1655) сяло дашчэнтна згарэла. Пасля ваеннага пажару вёска адбудавалася, засялілася новымі пасяленцамі. Паводле ўказу статута Паштовай камунікацыі ад 1717 года, побач Чаромхі быў вызначаны паштовы шлях з Бельска-Падляшскага ў Брэст (цяперашняя краёвая дарога на пагранпераход Палаўцы — Пяшчатка). Паводле дакументаў ад 1790 года вёска налічвала 108 дамоў. У тым жа часе, пры канцы XVIII стагоддзя (1797), бярэ пачатак узведзеная на мясцовым могільніку царкоўка святых Кузьмы і Дзям'яна. Пад датай 13 траўня, на Якава, пазначаны запіс аб закладцы падмурка.

Чарговы, непамерна важны перыяд у гісторыі вёскі, гэта Першая сусветная вайна і 1915 год, калі жыхары вёскі масава падаліся ў бежанства. Паўплывала на гэта пагроза набліжэння нямецкага нашэсця. Чарамшане выязджалі сем'ямі. На падводы грузілі харчовыя прадукты, рухомую маёмасць, забіралі жывёлу. Падаваліся ў далёкае невядомае, не ведаўшы свайго месца прызначэння. У вёсцы засталося некалькі старэч. Падарожжа доўжылася некалькі месяцаў. Адны пасяліліся бліжэй, на Украіне, іншым прыйшлося ехаць за тысячы вёрст у глыб Расейскай імперыі, каб знайсці свой „аазіс шчасця". Але шчасце на чужыне не працягвалася доўга. Пасля двухгадовага бытавання наступіў час дзяржаўнага перавароту — кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэта быў кашмар. Паўсюль царылі мяцеж, рабунак і гвалт. Настаў голад. Мясцовае насельніцтва коса глядзела на бежанцаў. Узнікла ідэя вяртацца дамоў, на бацькаўшчыну. Не ўсім пашанцавала. Многія засталіся на чужыне. Адны памерлі ад голаду, іншыя загінулі ў час рэвалюцыі. Як жа жахлівае відовішча заспелі вяскоўцы, якія вярнуліся пасля пяцігадовай адсутнасці. Зруйнаваны дом, парослая пустазеллем гаспадарка, разграблены дабытак і сельскагаспадарчыя прылады. Прыйшлося ўсё нанава нажываць. Большасць уцекачоў будавала часовыя паветкі і зямлянкі. І як раней, у час бежанства, так і зараз прыходзілася паспытаць холаду ды голаду, затым змагацца з хваробамі.

Фота Уладзіміра Сідарука



Мясцовыя пяўнні. Злева: Анна Боцюк, Надзея Унучка, Яўгенія Кердалевіч і Марыя Кердалевіч

Буйнейшы працэс развіцця вёскі выпадае на трыццатыя гады. Арганізуецца ўпершыню пажарная каманда. Сяляне за здабытыя грошы з найму лесу для варшаўскіх паляўнічых купілі ручную помпу. На закупку рыштунку пажарнікі здабывалі грошы і з мастацкіх выступленняў, якія рыхтавалі вучні пад наглядам мясцовага настаўніка. Школа змяшчалася ў прыватных кватэрах. Будынак школы, якой карысталася вёска ў пасляваенны час, быў перавезены пры немцах з Кляшчэляў у 1942 годзе (пацярпеў ад пажару 23 лютага 1999 года).

Жахлівыя падзеі Другой сусветнай вайны пакінулі трывалы след у біяграфіях жыхароў вёскі. Многія былі вывезены на прымусовыя работы ва Усходнюю Прусію. Пры канцы ліпеня 1944 года вёска была пацыфікавана. Ад пажару пацярпела 142 забудовы і загінула адзінаццаць жыхароў. Чатыры дні доўжылася адчайная абарона немцаў перад агнявым наступам савецкіх войск. Значныя страты пацярпелі абодва бакі, як у людзях, так і ў баявой тэхніцы. Пацярпелі і жыхары вёскі. Некалькі асоб загінула, шмат было параненых...

У пасляваеннай Польшчы зноў прыйшлося змагацца з адбудовай дамоў і зруйнаванай гаспадаркі. Цяжка прыходзілася ў пачатках. Зямля слабой якасці, у асноўным V і VI класаў не давала прыбытку. Адзінай крыніцай даходу была праца на чыгунцы. Чаромхаўская станцыя стала маці-карміцелькай для многіх сем'яў. У 1947 годзе пачала працаваць школа-сямігодка . І так было да 1978 года. Пасля адукацыйнай рэформы, дзеткі старэйшых класаў сталі вучыцца ў гміннай школе ў Чаромсе-Станцыі, малодшыя з I-III класаў далей займаліся у сваёй школе, пакуль тая не згарэла.

Да важнейшых падзей, якія варты напаміну, трэба залічыць пабудову пажарнага дэпо (1948), электрыфікацыю вёскі (1951), брукаванне вясковай вуліцы (1956), пабудову вясковай крамы на грамадскіх пачатках (1963), пабудову новага дэпо і прызначэнне пажарнікам баявога пажарнага аўтамабіля (1989), пракладка вясковага водаправода (1991), асфальтаванне вясковай вуліцы (1992). У гэтым жа годзе вёска атрымала тэлефоны. З важнейшых падзей апошняга перыяду варты згадкі рамонт і асвячэнне вясковай святліцы. Мерапрыемства праходзіла 13 ліпеня мінулага года. Гэта была вялікая імпрэза, якая даказала, што ў вёсцы Чаромсе жыве дружны, працавіты народ. Арганізатарамі мерапрыемства былі Гмінны асяродак культуры і Гмінная ўправа ды Салэцкая рада з солтысам Яўгеніяй Кердалевіч на чале. А пышнае застолле падрыхтавалі мясцовыя гаспадыні пры фінансавай падтрымцы арганізатараў і дзякуючы добраахвотным складчынам жыхароў вёскі. І я там быў, мёдгарэлку піў, а на добры ўспамін здымкі зрабіў.

Паводле аповеду настаўніц **Ірэны Шатыловіч** і **Галіны Саўчынскай** запісаў

**Уладзімір СІДАРУК**




Сённяшняя Беларусь — гэта краіна, якая нібыта стаіць на нейкім раздарожжы. Там ідзе пастаянная барацьба своеасаблівых заходнікаў і славянафілаў. Прычым першыя перамагаюць у памкненнях насельніцтва жыць заможна, а другія — у настальгічных жаданнях аб прыналежнасці да вялікай па памерах краіны, што прасціралася ажно да Ціхага акіяна. Абедзве ідэалагічныя плыні нібыта цягнуць Беларусь у розныя бакі, аб'ектыўна адмаўляючы ёй у самадастатковасці і ўнікальнасці. Магчыма, у гэтым крыецца нейкі ўроджаны недахоп нашай нацыі, калі мы толькі і мыслім, як далучыцца да кагосьці, хто нам, па нашым жа меркаванні, абавязкова мусіць ва ўсім дапамагаць. А генеруецца даны недахоп, па ўсёй верагоднасці, недастатковасцю аб'ектыўнай і непрадузятай інфармацыі, якая б руйнавала разнастайныя міфы, што жывуць у галовах беларусаў.

Добра, калі разбурэнне міфаў адбываецца ў час, калі чалавек яшчэ толькі ўступае ў жыццё. Як, напрыклад, гэта робяць арганізатары конкурсу «Што я ведаю пра Еўропу?» для вучняў старэйшых класаў. Каб больш дэталёва з ім пазнаёміцца, варта зазірнуць на старонку http://eurashkola.eu, дзе распавядаецца пра розныя асаблівасці гэтага штогадовага мерапрыемства. «„Што я ведаю пра Еўропу?" — інтэлектуальны конкурс, дзякуючы якому вучні сярэдніх школ атрымліваюць веды пра Еўропу і знаёмяцца з жыццём нашых заходніх суседзяў», — распавядаюць арганізатары конкурсу на першай старонцы сайта з правага боку выяўлення, якая адначасова з'яўляецца рубрыкай «Навіны».

Уласна сайт зроблены даволі простенька без асаблівых аздабленняў, але і не з адным толькі тэкстам. На ім можна пабачыць удзельнікаў былых конкурсаў, што праходзілі ў розных гарадах Беларусі, даведацца аб пераможцах.

Са старонкі «Пра конкурс» нам стане вядома, што гэтае інтэлектуальнае спаборніцтва праходзіць з 2004 года, і сёлетні конкурс будзе юбілейным дзесятым. Там жа распавядаецца пра яго ўмовы. Прыемна адзначыць, што пераможцамі конкурсу становяцца не толькі мінскія навучэнцы, але і вучні з розных рэгіёнаў Беларусі.

Пра тое, як праходзіць спаборніцтва сёлета, бо складаецца з некалькіх этапаў, можна паглядзець на старонцы «Навіны». Падаецца, што даная назва не зусім пасуе да зместу старонкі, але ў арганізатараў, пэўна, іншае меркаванне.

Паколькі самым галоўным у кожным інтэлектуальным спаборніцтве з'яўляюцца пытанні і заданні, то пазнаёміцца з імі можна ў рубрыцы «Архіў заданняў». Дарэчы, яны вельмі цікавыя і патрабуюць ад удзельнікаў перш за ўсё добрай эрудзіраванасці, бо малаверагодна, што большасць пытанняў і заданняў конкурсу ўваходзіць у школьную праграму. Так, далёка не кожны беларускі звычайны школьнік адкажа, хто натхніў Рабера Шумана на стварэнне плана супольнай еўрапейскай эканамічнай арганізацыі, альбо калі адбыліся першыя ўсеагульныя выбары ў Еўрапейскі парламент, альбо хто быў абраны першым афіцыйным старшынёй Еўрапейскага Савета. Зразумела, што пра пытанні сёлетняга конкурсу там не распавядаецца.

А вось хто менавіта з'яўляецца арганізатарам конкурсу на сайце чамусьці не ўказваецца. Праўда, там змешчана інфармацыя пра Еўрапейскі клуб Ліцэя № 2 горада Мінска, з чаго трэба меркаваць, што ён і выконвае ўсе арганізатарскія і натхняючыя да конкурсу функцыі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

### Сапраўдны рыцар навукі

# 175 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Дыбоўскага



18 красавіка 1838 г. у маёнтку Адамарын (цяперашні Маладзечанскі раён Беларусі) нарадзіўся Уладзіслаў Дыбоўскі, чалавек незвычайнай і вельмі адметнай біяграфіі. Удзельнік паўстання 1863-1864 гг., заолаг, батанік, палеантолаг, мінералог, фалькларыст — гэта ўсё пра яго.

Звесткі пра гэтую асобу знаходзім ва ўспамінах роднага брата Бенядыкта Дыбоўскага, а таксама з мемуараў самога героя, які быў наймалодшым дзіцём у сям'і. У дзяцінстве ён з-за недагляду няньзгі моцна захварэў, у выніку чаго яму вельмі доўга і няўдала лячылі нагу. Вядома таксама, што бацька Уладзіслава быў добрым агароднікам, што не магло не адбіцца на лёсе сына. Дзеці Дыбоўскага атрымалі спярша добрую прыватную адукацыю. Уладзіслаў потым скончыў мінскую гімназію, а ў 1862 г. — Дэрпцкі (Тартускі) універсітэт. Галоўнай сферай яго навуковага інтарэсу там стала палеанталогія. Уладзіслаў едзе на Навагрудчыну, а неўзабаве выбухае вызвольны чын. За ўдзел у студэнцкім паўстанні, нягледзячы на інваліднасць нагі, быў засуджаны да турэмнага зняволення — сядзеў у мінскай турме. Да навуковай працы ў Тарту ён змог вярнуцца толькі ў 1871 г. У тамтэйшым універсітэце Дыбоўскі сур'ёзна падвышаў свой навуковы ровень і плённа дзеіў, апрацоўваў зборы свайго брата Бенядыкта, якія той перасылаў з Сібіры і Камчаткі, друкаваў даследчыя артыкулы. У гэты перыяд ён прыязджаў да сваёй сястры Мальвіны, што жыла ў маёнтку Войнаў непадалёк ад Любчы, дзе таксама вёў навуковы пошук. Праца Дыбоўскага „Фаўна бруханогіх возера Байкал" адразу прынесла яму ведамасць сярод заолагаў.

З-за кепскага здароўя навуковец быў змушаны пакінуць Дэрпцкі ўніверсітэт. Пры тым ён паспеў абараніць доктарскую дысертацыю, але сталай працы там таксама не меў. З 1878 да пачатку 1900-х гадоў Уладзіслаў Дыбоўскі жыў у Нянькаве (цяперашні Наваградскі раён). Маёнтак Нянькаў, які быў прыблізна за 20 кіламетраў ад Наваградка, не быў уласнасцю Дыбоўскага. Ён арандаваў яго ў нейкага Умястоўскага. Паблізу жыла сястра Мальвіна Наргілевіч, якая вельмі дапамагала брату. Жывучы ў Нянькаве, Уладзіслаў працягваў апрацоўваць зборы брата, а таксама вывучаў мясцовую навакольную флору. Дыбоўскаму было досыць самотна — без сваёй сям'і і аднадумцаў. Ад роспачы ратавала навука — ягоная найбольшая любоў. Сярод іншых прац вучонага, які быў паліглотам, можна знайсці і два зборнікі беларускіх загадак і прымавак.

Памёр Уладзіслаў Дыбоўскі 27 ліпеня 1910 г. Дом у Нянькаве, на жаль, быў знішчаны ў час Другой сусветнай вайны. Помнік на магіле ў Войнаве быў знішчаны ў 1950-я гг. У наш час імя выдатнага навукоўца трапіла ў розныя беларускія энцыклапедыі і даведнікі. У 1989 г. выйшла нават невялічкая кніжка „Рыцар навукі з Нянькава", у якой шырэй расказана пра біяграфію гэтай асобы.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Суботнія сустрэчы ў музеі

Падсакольскім татарам быў прысвечаны чарговы семінар, ладжаны ў рамках новага цыкла суботніх сустрэч у Музеі Сакольскай зямлі. Маладой гаспадыні музея Аляксандры Плюты вельмі перашкаджала мёртвая, пазасезонная цішыня будынка, таму рашылася яна на кантакт і супрацоўніцтва перш за ўсё з мясцовымі жыхарамі. Гэтыя не засталіся абыякавымі.

Цяжка было знайсці вольнае, сядзячае месца ў час паказу дакументальнай стужкі пра жыццё вядомага на Сакольшчыне імама Стэфана-Мустафы Ясінскага. Ранг мерапрыемству надала прысутнасць блізкай сваячкі галоўнага героя Галены з роду Ясінскіх. Яна асабіста пазнаёміла прысутных з радаслоўнай гэтай паважанай, шляхецкай сям'і герба Сас. Прадзеды народжанага ў 1911 годзе імама Ясінскага былі паселены ў падсакольскіх шляхецкіх Малявічах-Верхніх каралём Рэчы Паспалітай Янам III Сабескім. Маці Стэфана пераехала туды за мужам з падкрынскіх Крушынянаў. Усе родныя браты і сёстры імама спачылі на могільніках зямель колішняга Вялікага Княства Літоўскага, а канкрэтна ў непадалёкіх Багоніках, Гародні і на Віленшчыне. Брат бацькі — Мацей — назаўсёды звязаў свой лёс з беларускай Слонімшчынай.

Імам Ясінскі — жывая гісторыя Сакольшчыны. Яго прыватныя ўспаміны, запісаныя на камеру Тамашам Вісьнеўскім, з'яўляюцца непаўторнай хронікай бурлівых падзей усяго XX стагоддзя. Маляўнічы аповед героя, узбагачаны шматлікімі архіўнымі фотаздымкамі, трапна перадае гледачу атмасферу адлеглых часоў. Мабыць, асноўным матывам згаданага сюжэта можна лічыць нараджэнне і безупыннае існаванне нязломнай любові ды ахвярнасці Богу і людзям. На працягу свайго амаль стотрохгадовага жыцця быў і застаецца ён недасціглым узорам маральнасці, здаровых міжлюдскіх адносін і вернасці роднай спадчыне.

Фота Іаанны ЧАБАН

Галена Ясінская і яе радаслоўная

Такім ведаюць яго шматлікія жыхары Сакольшчыны.

Спадарыню Халіму, прысутную на гэтым мерапрыемстве, з асобай імама Ясінскага спалучаюць толькі самыя лепшыя ўспаміны перш за ўсё як выдатнага прапаведніка і настаўніка рэлігіі. Імам жыў у згодзе з самім сабой і з усімі астатнімі, прытым вылучаўся асаблівай унутранай раўнавагай і спакоем.

Увагу на музейную сустрэчу звярнулі таксама студэнты этналогіі Універсітэта імя Адама Міцкевіча ў Познані, якія праводзілі ў наваколлі метадалагічную лабараторыю. Галоўнай мэтай іх даследаванняў было знаёмства з тоеснасцю і жыццём мясцовага насельніцтва. Гэтае мерапрыемства паспрыяла, між іншым, правядзенню адпаведных размоў з прысутнымі тут аўтахтонамі. Будучыя этнолагі засталіся пад вялікім уражаннем ад спаткання з дагэтуль невядомай ім рэчаіснасцю ўсходняга памежжа.

**Іаанна ЧАБАН**

# Найлепшыя рыбаловы

Нядаўна адбыліся першыя спаборніцтвы вудзільшчыкаў з трох паветаў на кубак бурмістра Міхалова Марка Назаркі. Удзельнічалі ў іх 40 рыбакоў з Бандароў, Белавежы, Гайнаўкі і Сямятыч. Рыбу лавілі з-пад лёду на Семяноўскім вадасховішчы.

Мерапрыемства ладзілі вудзільшчыкі, аб'яднаныя ў гуртку ў Бандарах (Міхалоўская гміна), якому старшынствуе Ян Бароўскі. На кручкі найбольш трапіла плотак, ляшчоў і акунёў.

Конкурсная камісія падвяла вынікі спаборніцтваў: першае месца прысуджана Міхалу Целушэцкаму з Новага Ляўкова (на здымку), які з'яўляецца сябрам бандарскага гуртка, другое месца — Марку Багуцкаму з Сямятыч і трэцяе — Веславу Круку з Гайнаўкі. Пераможцы атрымалі кубкі, дыпломы і рэчавыя ўзнагароды.

Міхась Целушэцкі расказаў пра свой поспех:

— Рыбалкай займаюся ўжо дзесяць гадоў. Лавіў я, між іншым, на мазурскіх азёрах. За той час накапіўся ў мяне такі-сякі вопыт. Найчасцей, аднак, разам з Кастусём Целушэцкім, лаўлю рыбу на ставах побач керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове. Падбіраем адпаведную прынаду, кручкі і вудачкі. Кожная рыба інакш бярэ. Шмат разоў удавалася нам злавіць вялікага шчупака або карпа. Радасць тады якая!

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | 2 | 3 | | 4 | | | | 5 | 6 | | | | 7 |
| 8 | | | | | 9 | | | | | | | | 10 | | | | | | | | 11 |
| | | | | 12 | 13 | | 14 | | | | | | 15 | 16 | | | | 17 | | | |
| | | 18 | 19 | | | | 20 | | | | 21 | | | | 22 | | | 23 | | | |
| | | | 24 | | 25 | 26 | 27 | | 28 | | | 29 | | | 30 | | | | | | |
| | 31 | | | | 32 | | | | | | | | | | | | | | 33 | | |
| | | | | | | | 34 | | | | | | | 35 | 36 | | | | 37 | | |

1. старажытнарымскі бог ураджайнасці і вінаробства, 2. ганаровая назва выдатнага мастака, 3. грузінскі порт, 4. колішні Тайланд, 5. Дональд, польскі палітык, 6. правы прыток Віслы з Семяноўскім вадасховішчам, 7. выразнік грамадскай думкі, 8. пасхальны яўрэйскі праснак, 9. страва з дробна нарэзанага мяса, утушанага з гароднінай, 10. прадмет, на які накіроўваецца ўдар, 11. чалавек, які ўвесь час на ўсё скардзіцца, 12. Фрэнсіс, англійскі геафізік (1876-1943; *Whipple*), 13. 7, 14. прыяцель, 15. рыбалоўная снасць — сетка нацягнутая на абруч, 16. малады сярэдневяковы заходнееўрапейскі дваранін, які прыслугоўваючы каралю рыхтаваўся да атрымання звання рыцара, 17. тройчы ты, 18. Сайрус, амерыканскі прадпрымальнік і грамадскі дзеяч, лаўрэат Ленінскай мірнай прэміі за 1960 год, (1883-1979; *Eaton*), 19. вялікае памяшканне ў грамадскім будынку для чакання, 20. грашовы расход, вартасць, 21. абрэвіятура арганізацыі Бан Кі Муна, 22. муж Фацімы, 23. спецыяліст, што валодае выдатнымі ведамі ў нейкай галіне, 24. разбуральныя хвалі, якія ўзнікаюць на паверхні акіяна ў выніку падводнага землятрасення, 25. сіні колер, 26. англійская выспа ў Канале Ла-Манш, 27. злы дух у блізкаўсходняй міфалогіі, 28. сукупнасць прадметаў, якія надзяваюць і носяць на сабе, 29. механізм для пад'ёму і перамяшчэння грузаў, 30. сёмы гук музычнай гамы, 31. уліваецца ад усходу ў Фінскі заліў, 32. гістарычная дзяржава на поўнач ад Гімалаяў, якая зараз у межах Кітая, 33. рытуальная забарона, 34. атрута, 35. будыйскі ўсходнеазіяцкі святар, 36. аграгарадок на 56° паўночнай шыраты, 37. у ім шыла не схаваеш.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — страфа Уільяма Шэкспіра.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 11 нумара**

Дажынкі, казах, лава, неба, нож, рыба, Ула, цяга, час, Чылі, Шанхай, шок.

Рашэнне: **Калі хочаш каб цябе жонка слухала, загавары да іншай жанчыны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Уладзіміру Ахрымюку** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 21.04 — 27.04

**(22.03. — 20.04.)** Разглянься за дадатковай касай (да канца красавіка); нават невялікі высілак паспрыяе таму, каб папукаціўся твой кашалёк. Не адмаўляйся ад сямейных „спэндаў", бо ў найбольш нечаканым моманце і месцы можаш спаткаць кагосьці надта цікавага, а і расквітнеюць кантакты з раднёй. З 26 (да 30.04.) можаш не ацаніць таго, што пададуць табе на талерцы, таму два разы падумай, пакуль скажаш „не".

**(21.04. — 21.05.)** Глядзі на тое, што ясі, не забывай аб сняданках, а ўвечары не падганяй. Не шалей за рулём. 20-24.04. — можаш страціць грунт пад нагамі; задумы запісавай, ды з іх рэалізацыяй пачакай. 22-26.04. будзеш моцны і трывалы, шмат спраў пойдзе па-твойму. Не адкідвай парад — з 25 (да 29.04.) заўвагі тваіх блізкіх будуць вельмі трапныя.

**(22.05. — 22.06.)** Да 23.04. можаш узмацніць лады ў пары; не ўсе будуць за табой пасляваць. Можаш адчуць стому; старайся не падмацоўвацца кавай, а вострымі прыправамі, асабліва імберцам. Не прадбачваюцца большыя павышэнні ані прэміі, ды прыйдзе на іх час — рабі сваё. Хіба што маеш намер купіць дом ці кватэру — гэтага не адкладвай.

**(23.06. — 23.07.)** Вырвешся з меланхоліі і горшага настрою. Варта цяпер табе сесці на дыету і папрактыкавацца. Планеты спрыяюць табе ў кантактах з людзьмі цікавымі свету, з адкрытымі галовамі і шчырымі. Добры час для пераезду на новае жыллё. Паявіцца надзея на большую касу!

**(24.07. — 23.08.)** 22-26.04. справы, якія пачнуць ускладняцца, нечакана абернуцца на тваю карысць; вытрывай да канца. Цяпер вельмі добры час, каб задбаць аб скуру і валасы. Да канца месяца будзеш вельмі амбітны і галодны поспеху. Калі толькі не перагнеш (лічыся з людзьмі!), маеш шанц пазітыўна задзівіць кіраўніцтва.

**(24.08. — 23.09.)** Да 22.04. будзеш рады, маеш шанц выйсці на прамую. 22-26.04 — дабаўка пазітыўнай энергіі, удачы ў юрыдычных справах, 23-25.04. будзе табе цяжкавата, санліва; старайся адпачываць, мацуйся горкім шакаладам. Да 23.04. не рызыкуй з грашыма.

**(24.09. — 23.10.)** 20-24.04. можа пагоршыцца твой настрой. Але 22-26.04. дзякуючы блізкай асобе пачнеш узбірацца па прыступках кар'еры; калі чакаюць цябе негацыяцыі, не адцягвай іх! 25.04. будзеш апасацца за стан свайго рахунку, ды не бойся, працуй і выкарыстоўвай усе нагоды.

**(24.10. — 22.11.)** Падагрэецца атмасфера ў пастаянных парах, нервы, злосць; не даказвайце, хто з вас лепшы. Не ўмешвайся ў справы іншых, не ставай на чыімсьці баку, усё ж выслухай жаляў. Будзеш стомлены, не перанатужвайся. 22-26.04. — інтэнсіўныя эмоцыі; больш заангажуешся ў пары. У аўторак трымай ва ўсім меру, асабліва ў ежы.

**(23.11. — 22.12.)** 22-26.04. — ідэальны час на наладжванне знаёмстваў і падпісванне дамоў. Не пакіне цябе добры настрой. Хаця на працы трэба будзе быць большым дыпламатам. Наведай доктара, падбай аб сваё здароўе, еж кашы і гародніну, пі зёлкавыя гарбаткі. Добра закручвай кран (і твой сусед таксама!). 25.04. не эксперыментуй і не імправізуй; дробныя памылкі могуць аказацца быць вельмі істотнымі.

**(23.12. — 20.01.)** 20-24.04. не рызыкуй, асабліва ў інтарэсах; усё мусіць быць зашпілена на ўсе гузікі. 22-26.04. можа прыйсці канец тваім фінансавым турботам. Будзеш паспяховы і эфектыўны, і могуць выслаць цябе на нейкія абучэнні (не адмаўляйся, пры нагодзе наладзіш кантакты, якія ў будучыні табе прыдадуцца). 27.04. можаш пагаладаць, ачысціць свой арганізм.

**(21.01. — 19.02.)** Да 22.04. мноства задум, ажыўленыя стасункі, адным простым рашэннем маеш шанц шмат змяніць. 22-26.04. будзеш мець удачы ў фінансавых справах — і дробных, і сур'ёзных. 25.04. будзь вельмі асцярожны і пазбягай канфліктаў, не спрачайся асабліва з кіраўніцтвам; не ўпірайся сёння сілай рэалізаваць амбітныя планы. Найбольш можаш здабыць хвальбой і заахвочваннем.

**(20.02. — 21.03.)** 22-26.04. прадвяшчаецца прыліў энергіі і мабілізацыя сіл. Цяпер лёгка зробіш тое, на чым даўно табе залежала. Адпачывай на прыродзе. 20-24.04. будзеш мець атакі раздражненасці і знеахвочання, адчакай, не высоўвайся, не прымай неабдуманых рашэнняў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Лондан: уік-энд у дажджы і нарцысах



*(пачатак у № 13)*

Нечакана, у рытм ад'язджаючага цягніка метро, з мегафонаў, паміж рэкламамі і аб'явамі, прагучала эмацыйная нізка слоў. Пачуцці закладзеныя ў радкі лірычнага твора прамовілі як трывожная перасцярога. Яны мацавалі крок і рашучасць, папіхалі, неслі ўперад. Прыемна здзіўляла доза натхнёнай паэзіі ў гэтым рухомым месцы, дзе бесперапынным патокам перамяшчаліся натоўпы з цэлага свету. Лонданскае метро найстарэйшае ў свеце. Першы падзямельны цягнік рушыў 10 студзеня 1863 года. За некалькі дзён у Польшчы ўспыхнуе студзеньскае паўстанне.

У Лондане практычна ўсюды найхутчэй дабярэшся на метрапалітэне. Сець лонданскага метро складаецца з 12-ці ліній. Значная частка, дакладна 55 адсоткаў шляхоў, пракладзена па паверхні горада. Ад гэтага дадатковая прыемнасць, паколькі Лондан лічаць самым зялёным горадам на Зямлі. Кожны дзень на гэтым гістарычным прыбытку тэхнікі, які сёлета адзначае сваё 150-годдзе, перамяшчаецца тры мільёны людзей. Жыхароў Падляшша можа ўразіць масавая звычка чытання. Калі ў нядзельку мы дабіраліся на метро ў City of Westminster, больш за палову пасажыраў чытала ранішнюю прэсу, апошнія ўзіраліся ў экраны сваіх тэлефонаў і смартфонаў і таксама штосьці чыталі.

* * *

Чалавек, які прыязджае ў сусветную метраполію з нашага ляснога канца свету, чытае рэчаіснасць на розных узроўнях. Перш чым пакарыстацца моўвай і пісьмовай культурай, будзе «чытаць» з жэстаў, гукаў і знакаў, прывезеных са свайго лесу. Заўсёды здзіўлялі мяне эмігранты, якія без ведання афіцыйнай мовы і пісьмовага коду ўсё жыццё пражылі ў Чыкага, Берліне ці Таронта, пры тым не губляй жыццёвай задаволенасці. У Лондане мы пачулі расказ пра дзядзьку з Гарадка, які, не ведаючы англійскай мовы, два гады працаваў лістаношам. І размаўляў, на здзіў сваім адукаваным у ангельшчыне дзецям, адно *па-просту*. На такі рызыкоўны крок ён ніколі не дазволіў бы сабе ў нашым «шматкультурным» Беластоку. Атмасфера вялікіх сталіц прасякнута духам свабоды, і гэта заахвочвае чалавека зберагчы свой рытм, характар, тоеснасць. Карацей, у Лондане я адчула сябе як у пушчы, дзе моц і сіла ішлі ад разнавіднасці дрэў, іх шматгучнага пошуму і велічыні. Усё тут здавалася патрэбным, дапаўняючым і натхняльным. У Лондане, як абвяшчаюць рэкламныя заклікі, наведвальнік мае магчымасць пабачыць і пасмакаваць культуру (у тым ліку кулінарыю) з цэлага свету. На працягу года горад наведвае пятнаццаць мільёнаў турыстаў...

На жаль, з-за часавых абмежаванняў, мы не маглі наведаць Беларускі цэнтр з імпазантнай бібліятэкай імя Францішка Скарыны. Пра месца можна сказаць адно: там процьма арыгінальных кніг і дакументаў ды матэрыяльных помнікаў культуры. Такіх скарбаў не мае ніякі музей ні бібліятэка ў Рэспубліцы Беларусь.

Каб улавіць шматвекавы дух Вялікабрытаніі, хопіць наведаць Вестмінстарскае абацтва. Для англічан яно з'яўляецца свяцілішчам нацыі, сімвалам усяго, за што яны змагаліся і змагаюцца.

* * *

Сваю экскурсію мы пачалі ад памятных здымкаў на фоне славутага гадзініка Біг-Бен, размешчанага на вежы будынка парламента. Сам будынак парламента можна паназіраць з-за саліднай жалезнай агароджы. Месца прамаўляе сілай ідэі і чалавечага таленту, выкаванай у скале. Ідучы за патокам турыстаў, мы ледзь не папалі ў парк, які прытыкае да муроў парламента. Як вядома, у галіне паркавага мастацтва англічане накінулі свету свае стандарты з назвамі і асацыяцыямі. У гістарычным квартале City of Westminster можна прыкмеціць шмат векавых дрэў і іх прысутнасць яшчэ больш падносіць канструктыўную энергію месца. Менавіта па сённяшні дзень вандроўка ў Вестмінстарскае абацтва здаецца як са сну. У касцёл мы ўвайшлі элегантным чорным ходам ды нават прыселі сярод каменных лабірынтаў, пазначаных мемарыяльнымі табліцамі каралёў, літаратараў, мастакоў, навукоўцаў. У пэўны момант мы абмінуліся з хлапечым хорам, прыадзетым у чырвоныя тогі. Хоць традыцыя дзіцячых хлапечых хароў, якія спяваюць *boy soprano*, нарадзілася ў Вене, сёння найбольш распаўсюджаная ў Вялікабрытаніі. У краіне існуе больш за дзвесце хлапечых хароў, з якіх самы вядомы ў Вестмінстарскім абацтве. Сярод спевакоў, якія прамаршыравалі ў гістарычных касцюмах, мы пабачылі прадстаўнікоў белай, чорнай і жоўтай рас.

У пэўны момант падышоў да нас манах, які сам прапанаваў завесці ў галоўны ўваход святыні. Там чакаў тлум турыстаў і вернікаў. Такім спосабам і ходам мы трапілі на галоўнае набажэнства ў англіканскім абрадзе. Багаслужбу, якая трывала да двух гадзін, адпраўлялі святчэннікі абодвух полаў.

— І як атрымалася? — пыталі пасля мяне ў Беластоку.

— Нармальна, па-англіканску.

Магчыма, так падзейнічалі працудоўныя спевы хору і засяроджанасць на чытанні фрагментаў Біблії, якія прагучалі з годнасцю і прастатой. Уразіла мяне яшчэ народная рэлігійная песня, якую разам з духавенствам спявалі вернікі і турысты (перад уваходам у храм кожны атрымаў сцэнарый набажэнства з тэкстам). І прапаведзь пра грэх напыхлівасці і пагарды ў адносінах да другога чалавека. Уразіла яшчэ здаровая доза экуменізму — просьба аб малітву за людзей розных веравызнанняў, якая некалькі разоў прагучала ў час набажэнства. Аднак самы кранальны і нечаканы экуменічны жэст прывітаў нас ля ўваходу ў галоўны неф саборнай царквы св. Пятра.

На калонах, якія падпіралі будынак, былі змешчаны візантыйскія іконы: Прасвятой Багародзіцы Адзігітры (вядомай у нас як Супрасльская Божая Маці) і Ісуса Хрыста. Многія наведвальнікі запальвалі ім свечкі ў баначках з металу.

* * *

Вестмінстарскае абацтва, часткай якога з'яўлецца саборная царква св. Пятра, з-за сваёй архітэктуры і значэння занесенае ў спіс помнікаў Сусветнай спадчыны. Тут каранаваліся амаль усе каралі Вялікабрытаніі і тут многія з іх пахаваныя. У мурах гістарычнай будоўлі спачываюць косці літаратараў, мастакоў, музыкантаў, навукоўцаў, філосафаў. Побач прыкладных хрысціян сваё месца знайшлі затятыя атэісты. Праўда, у гонар апошніх, звычайна некалькі гадоў або стагоддзяў пасля смерці, змяшчалі бюст або мемарыяльныя дошкі. У абацтве знаходзіцца куток паэтаў, дзе ўшанаваная памяць літаратараў, між іншым, Шэкспіра, Байрана, Браўнінга, Дыкенса, Эліёта, Блейка...

Мы, зразумела, запалілі свечкі ля іконы Багародзіцы і, акрыленыя добрым духам месца, пашыбавалі на паэтычна-музычнае мерапрыемства ў джаз-клуб...

*(працяг будзе)*



## Памяці Юркі Валкавыцкага

*Ты, Юрка, здзейсніў надта многа*
*На шляху сваім жыццёвым,*
*Вывеў на творчую дарогу*
*Шмат пачынальнікаў вясковых.*

*Іх згуртаваў у аб'яднанні*
*Пад сімвалічнай „Белавежай".*
*Творцы здабылі прызнанне,*
*Сталі вядомымі ў замежжы.*

*Тысячы мастацкіх твораў*
*Змясціў ты на старонках „Нівы",*
*Хоць заўжды працаваў да зморы,*
*Быў задаволены, шчаслівы.*

*Ды што ж, мінае год за годам,*
*Жывем і змушаны памерці.*
*Хоць адыходзіш назаўсёды –*
*Жыць будзеш заўжды ў нашых сэрцах.*

*Спі, Дружа, у магіле свежай*
*Пад крыламі Святога Духа.*
*Няхай зямелька ў Белавежы*
*Будзе Табе сапраўдным пухам!*

**Віктар Швед**
**Беласток, 10 красавіка 2013 г.**

## Новая „Белавежа"

*Белавежскі Юрка*
*Угледзеў Вагурку,*
*Сказаў: – Дзядзька Лявонь,*
*Напішы мне фельетон.*

*Ну а набраўшы сілы*
*Сакрат з'явіўся з Вілы,*
*Стаў цвёрда дамагацца,*
*Каб прызначылі працу.*

*Яшчэ Жамойцін Янка*
*Паявіўся зранку,*
*Сказаў у неба цішы:*
*– Аб Варкуце напіша.*

*Двух Гайдукоў таксама*
*З'явіліся ў праграме,*
*Хвалілі, як належыць,*
*Святыню-Белавежу.*

*Успомній Рудчык Віктар*
*Айчынныя рэлікты.*
*Сказаў, што цяпер трэба*
*Несці паслугу небу.*

*А Анішэўскай Лене*
*Белавежа – збаўленне,*
*І ёй аж да магілы*
*Патрапціла ўсе сілы.*

*Дык што ж, азваўся Юрка,*
*На незямным падмурку*
*Збудуем мы без межаў*
*Новую „Белавежу".*

**Андрэй Самасей**
**Беласток, 14 красавіка 2013 г.**

## Памяці Юркі Валкавыцкага

*вобразы неістотныя*
*гаснуць у забыцці*
*своечасова кара сплывае з дрэва*
*і скала рыхлее да каранёў*
*толькі жывая думка трывае*
*ў вечным цяпер*
*і помнік высечаны*
*долатам слова*
*і аўра ўспамінаў*
*цёплая як летняя раніца*

**Барыс Руско**
**Варшава, 8 красавіка 2013 г.**

ISSN 0546-1960